
Разьба Уладзіміра Мусько → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Кацярына Бяляўская → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3092) Год LX    Беласток, 16 жніўня 2015 г.    Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Беларускія фолькавыя сустрэчы

Пасля вяртання Юркі Астапчука і яго «Прымакоў» у Гарадок, у Міхалове ў гэтым годзе замест «Прымацкай бяседы» адбыліся ўпершыню «Беларускія фолькавыя сустрэчы». Імпрэза пад такой назвай пастаянна мае ўвайсці ў каляндар вядучых беларускіх культурных падзей гэтага горада. Падобна як на «Прымацкай бяседзе» на сцэну амфітэатра выйшаў цэлы шэраг беларускіх гуртоў (або тых, у якіх рэпертуары маюцца беларускія песні) з Гарадка, Чыжоў і Беластока ды тры з Беларусі. Спецыяльным госцем «Беларускіх фолькавых сустрэч» была папулярная... польская група «Red Lips». З нагоды гэтай падзеі бургамістр Міхалова Уладзімір Кананчук запэўніў «Ніву», што ён будзе рабіць усё, каб адной з вуліц Міхалова прысвоіць імя Мікалая Гайдука. Гэтую ідэю падтрымліваюць радныя, таксама тыя, што стаяць у апазіцыі да бургамістра, з якімі мы гаварылі.

У першых «Беларускіх фолькавых сустрэчах», арганізаваных 1 жніўня, перш за ўсё мясцовым Гмінным цэнтрам культуры, такіх натоўпаў публікі, як дагэтуль на «Прымацкай бяседзе», не было. Паявіліся тэнты з рукадзеллем, былі конкурсы, але не хапіла феерверкаў. Віншаванні са сцэны пераказалі гаспадары гміны і раней госці з Ваўкавыска, якія сябруе з Міхаловам, і нябачаны раней на такіх мерапрыемствах дэпутат ад Грамадзянскай платформы Дам'ян Рачкоўскі (не было, так як і на «Прымацкай бяседзе», дэпутата Роберта Тышкевіча, які быў у гэты час на «Музычных дыялогах над Бугам» у Мельніку). Амаль авацыямі прывіталі войта Гарадоцкай гміны Веслава Кулешу. У сваю чаргу прадстаўнік дырэкцыі беларускай часткі Белавежскага нацыянальнага парку заахвочваў наведаць Белавежскую пушча без віз на другім баку («заўсёды міла нам бачыць у нас усіх вас, каго любім і цэнім», «Беларусь для вас заўсёды дружаская краіна»). Усё гэта адбывалася за стаяўшымі за яго спінай вядучымі мерапрыемства: вакалісткай ансамбля «Ilo&Friends» Ілоны Карпюк і яе мужа, журналіста Радыё Рацыя, дыктара тэлепраграмы «Беларускі тыдзень» Радаслава Дамброўскага, які, жадаючы наведаць беларускую частку пушчы без візы і меўшы ўсе неабходныя дакументы, атрымаў забарону на ўезд па невядомай прычыне. У гэтым кантэксце красамоўна прагучала інфармацыя аб такой магчымасці ў вельмі элегантны спосаб перададзеная публіцы таксама яго вуснамі.

## Дзе тут культура?

Намеснік бургамістра Міхалова Юры Хмялеўскі зараз перад «Беларускімі сустрэчамі» заявіў журналістам:

— Група, якая прайграла выбары ў Міхалове (гаворка пра папярэдняга бургамістра Марка Назарку і яго каманду — М. Х.) заяўляла, што ўжо ніякіх беларускіх мерапрыемстваў тут не будзе. Але ж яны тут патрэбны, таму што тут беларуская культура мае глыбокія карані. Як «Бандароўская гасцёўня», як і чатырохгадовая «Прымацкая бяседа» пад новай назвай і ў новай формуле маюць свой працяг, і сведчаць аб наяўнасці тут беларускай культуры. Раней я, як дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, як і цяпер, і як галоўны рэдактар «Часопіса» падкрэсліваю, што трэба культуру адрозніваць ад гулянкі. Большасць беларускіх мерапрыемстваў, на жаль, зводзіцца да гулянкі. Я разумею, што гэтага людзям трэба, але я спытаюся, дзе тут культура? Як улады Міхалова, асабліва я, як адказны тут за культуру, моцна пільнуем, каб утрымліваць пэўны ўзровень арганізаваных тут мерапрыемстваў, каб людзі бачылі, што беларушчына гэта не толькі вёска і бяседа ў літаральным сэнсе, але і іншыя каштоўнасці. «Беларускія фолькавыя сустрэчы», спадзяюся, пакажуць, што нельга арганізаваць імпрэзы без мэт не звязаных з культурай.

На сцэне былі і «Рассляваны Гарадок», які праз тыдзень адсвяткуе сваё 60-годдзе, і «Чыжавяне». Юры Ганевіч з Гродна, акардэаніст і музычны кіраўнік «Чыжавян», якія дзейнічаюць на працягу амаль трыццаці гадоў, сказаў нам, незадоўга да выступлення:

— Ад часу, калі я знаходжуся ў гурце, усе кажуць, што калектыў вырас у мастацкім сэнсе. Сёння жорсткая сітуацыя з маімі даездамі. Гэта сталася, калі ўвялі правіла аб паездках на тым самым аўтамабілі ў Польшчу раз на восем дзён. У сувязі з гэтым я радзей прыязджаю, што ўплывае на якасць выступленняў, таму што ў нас менш рэпэтыцый. Я стараюся, каб дабрацца ці на падсадку, ці на аўтобусе, але гэта не заўсёды бяспечна. Раз мяне абакралі, аднялі партфель з дакументамі і грашыма.

Сярод выканаўцаў з Беларусі прадставілі сябе дзіцяча-моладзевы калектыў «Катрынка» з Высокага на Брэстчыне, які існуе ўжо больш за дзесяць гадоў у Цэнтры дадатковай адукацыі. Яго хормайстар Алена Краўчук:

— Рэпэтытары калектыву з'яўляюцца настаўнікамі Цэнтра. Дзеці прыходзяць на рэпетыцыі пасля заняткаў у школе. Мы не паказваем у Міхалове чыстага фальклору, але ў асноўным мы гэта робім. З намі прыехаў яшчэ калектыў «Белавежская цявінка», якога менеджар таксама працуе ў нашым цэнтры. Гэтая група прывезла чыста фальклорную праграму, а мы — фальклор у сучаснай апрацоўцы. На жаль, так як хацелі арганізатары, прыехала ад нас чатыры пары дзяцей. У базавым складзе выступае дваццаць восем чалавек. У нас не было транспарту, каб прыехалі ўсе.

Ларыса Лізякіна, харэограф: — Па словах арганізатараў, мы мелі нават прывезці беларускую эстраду, фальклор ужо ведаем. Тым не менш, мы паказваем тут крыху апрацаваныя па-сучаснаму, але беларускія, «Лявоніху», «Трасуху», «Бульбу» ці «Прывітальную» і малы блок чыста фальклорных танцаў, якія перадалі нашы бабулі, без нейкай спецыяльнай харэаграфічнай апрацоўкі.

Да забавы падарваў міхалоўскую публіку калектыў «Траецкія музыкі» з Барысава Мінскай вобласці, які ў снежні адзначыць дваццацігоддзе. Яго менеджар Святлана Вашкевіч:

— На свяце ў Міхалове мы ўпершыню, хаця тут ужо мы начавалі, калі былі на свяце ўраджаю ў Гарадку. Наш калектыў складаецца з вакальнай і інструментальнай груп, у агульнай складанасці нас каля дваццаці чалавек. Спяваем беларускія народныя песні, але ў нас у рэпертуары ёсць многа польскіх, таму што мы часта гасцюем у Польскім доме ў Барысаве. Беларускія чэрпаем з уласнай тэрыторыі, таму што «няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы». У нас ёсць выдатныя цымбалы, спецыяльна зроблены нашымі майстрамі, якія таксама спяваюць разам з намі. Цымбалы маюць цудоўнае, самавітае гучанне. Гэта наш любімы беларускі інструмент.

Стваральнік цымбалаў Аляксандр Працько і маладая цымбалістка «Траецкіх музыкаў» пераконвалі :

— Ігра на цымбалах гэта ігра музычнімі колерамі, галоўнае, каб перадаць беларускую душу.

Сярод гледачоў прахаджвалі дзяўчыны з Асацыяцыі практыкаў культуры з Варшавы, якія ў Крынках і Міхалове ды Далгабычаве на Люблінчыне рэалізуюць, як і год таму, праект «Прыгранічныя ў дзеянні». Лена Рагоўская з Асацыяцыі:

— Збіраем моўленыя гісторыі для таго, каб стварыць мультымедыйную выставу, якая будзе грунтавацца на іх і будзе падарожнічаць па іншых прыгранічных мясцовасцях. Мы шукаем беларускіх, яўрэйскіх, немецкіх слядоў. Размаўляем пра тое, як гэта было калісь і як цяпер. Пакуль у Міхалове мы знайшлі пустэчу, гучаць шмат клішэ: ёсць добра, любім гэтых беларусаў, і яны любяць нас, мы гасцінныя, і яны таксама. Ну, але мы будзем тут яшчэ тыдзень пасля мерапрыемства. У мінулым годзе мы пыталі маладых людзей, дзе тут можна сустрэць беларусаў, адказвалі, што ў краме. І так узнік фільм «Sklep» пра сучасны мультыкультуралізм Міхалова.

## Вуліца Мікалая Гайдука

Пры нагодзе «Беларускіх фолькавых сустрэч» бургамістр Уладзімір Кананчук заявіў у размове з «Нівай» падтрымку прапанове прысваення адной з вуліц імя знакамітага беларускага паэта, раманіста, педагога, журналіста, этнографа Мікалая Гайдука, які нарадзіўся каля двух кіламетраў ад Міхалова, у вёсцы Кабылянка 29 красавіка 1931 года (памёр 2 верасня 1998 г.):

**„Пра Мікалая Гайдука мы ўсе тут павінны памятаць. Трэба яго ўвекавечыць так, каб памяць пра яго трывала засталася ў мясцовай памяці. Мы прыкладзем усе намаганні, каб ушанаваць яго памяць. Мой камітэт у Гарадской радзе, вядома, падтрымае прапанову прысвоіць імя адной з вуліц. Нельга падыходзіць да гэтай прапановы ў палітычным плане. Трэба глядзець на гэта ў кантэксце традыцыі, якая на Міхалоўскай зямлі працягваецца і павінна быць захавана. Ранейшыя намаганні, каб ушанаваць памяць Мікалая Гайдука ў Міхалове, пры маім папярэдніку, не ўдаліся. Не было ў гэтым выпадку добрай волі ўсіх і размовы на гэтую тэму спыніліся на этапе размоў. Цяпер, я спадзяюся, што будзе інакш. Асабіста я да сёння памятаю нават яго бацькоў, хоць самога не ведаў.**

У адпаведнасці з бачаннем Юрыя Хмялеўскага, імя Мікалая Гайдука можна было б даць вуліцы (цяпер жвіроўцы) непадалёк могілак, у напрамку Кабылянкі:

— Разам з гісторыкам Ленай Глагоўскай шукаем нейкай зручнай нагоды для ўрачыстасці прысвяення яго імя. Можа, у маі, на Міколу або, магчыма, ужо ў гадавіну яго смерці.

Большасны клуб у Радзе Міхалова, якая налічвае пятнаццаць чалавек, «Mała Ojczyzna» нядаўна распаўся. Зараз яго члены, якія падтрымалі падчас апошніх мясцовых выбараў Марка Назарку і часта ў апазіцыі да дзейнага бургамістра, не мусяць, па меншай меры афіцыйна, галасаваць згодна з клубнай дысцыплінай, тым больш у такіх пытаннях, як назвы вуліц, аб чым пераконваў нас радны былога клуба Марыян Гайдучэня:

— Я і думаю, што калегі з нашага былога клуба, вядома, падтрымалі б такую ідэю, хоць я асабіста занадта шмат пра Мікалая Гайдука не чуў, але, пэўна, даведаюся, калі справа стане на камісіі па пытаннях культуры і адукацыі. Тады такую заяву абмяркуем, і, здаецца, ніхто нічога супраць яе не павінен мець. З майго боку напэўна не будзе супраціву, таму што я тутэйшы.

Адзіны незалежны радны Яўген Нос (які ад пачатку дзейнасці рады гэтага склікання не належыць да ніякага клуба) сказаў нам:

— Я гатовы падтрымаць прапанову, але мушу бліжэй пазнаёміцца з дасягненнямі гэтай асобы.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Беларусы
## і еўрапейская эміграцыя

Еўропа забіла трывогу. Трывогу больш нервовую чым з-за актывізацыі дзейнняў варварскай арганізацыі „Ісламская дзяржава" ці нават нападу Расіі на ўкраінскі Крым. На гэты раз еўрапейцы нарэшце прызналі, што іх шматгадовая палітыка па прыёме эмігрантаў зайшла ў поўны тупік.

Пра гэта ўжо крычаць не толькі прадстаўнікі радыкальных арганізацый на ўсё больш шматлюдных мітынгах, але і палітыкі найвышэйшага рангу, выказванні якіх па гэтым пытанні яшчэ нядаўна абмяжоўваліся выключна асуджэннем радыкалаў.

Сёння іх рыторыка змянілася. Праўда, яна не паўтарае заяў радыкалаў. Радыкалы заяўляюць, што некантраляваны прыток эмігрантаў з Азіі і Афрыкі пагражае існаванню еўрапейскага этнасу, калі так можна назваць народы Еўропы. Ці ў больш мяккім варыянце сцвярджаецца, што пагроза ідзе для еўрапейскай культуры, еўрапейскага ладу жыцця і еўрапейскіх духоўных каштоўнасцей, якія эмігранты не збіраюцца прызнаваць сваімі.

Палітыкі ж, як заўсёды, выступаюць з больш звыклага для іх прагматычнага боку. Яны ўрэшце зразумелі, што магутная еўрапейская эканоміка можа гэтага працэсу не вытрымаць. І прызналі, што дабрабыт еўрапейцаў хутка істотна пагоршыцца.

Бо гэта толькі ў рамантычныя 70-я гады мінулага стагоддзя ім здавалася, што нешчасныя ўцекачы з Афрыкі ды Азіі будуць да смерці ўдзячныя еўрапейцам за прытулак, бяспеку і кавалак хлеба, ды пры гэтым самі зарабляць сабе на гэты кавалак, пакольki эканамічная сітуацыя і прававое еўрапейскае поле ім гэта дазваляе зрабіць нараўне з карэннымі жыхарамі старога свету. Ну як гэтым не скарыстацца?

А вось тое, што прававая сітуацыя дазваляе эмігрантам узяць свой кавалак хлеба, нават не выходзячы на працу, і што многія абярэць менавіта такі варыянт, да працавітага пасляваеннага пакалення еўрапейцаў аніяк не даходзіла. А вось зараз пачало даходзіць, што не ўсе эмігранты едуць у Еўропу вуліцы падмятаць. Некаторыя едуць абурацца тым, што на еўрапейскіх вуліцах брудныя няверныя еўрапейцы дазваляюць сабе жэрці ежу з нячыстай свініны.

Вось еўрапейцы і патрапілі ў цугцванг. Галоўная праблема акурат і палягае на тым, што з першага позірку нельга адрозніць таго эмігранта, які сапраўды ўцякае ад галоднай смерці ці фізічнай расправы і шчыра хоча сумленна працаваць на сваёй новай радзіме, ад таго эмігранта, які праз нейкі час, кінуўшы сытую Еўропу, папоўніць шэрагі баевікоў. Ці яшчэ горш, вырашыць падарваць сябе на шматлюднай еўрапейскай вуліцы за тое, што ненавісныя яму еўрапейцы пасля чэсна і сумленна адпрацаванага дня па дарозе дахаты зайшлі ў кнайпу, каб выпіць бакал піва з сасіскай з усё той жа нячыстай свініны.

Здавалася б, чаго нам, беларусам, клапаціцца пра праблемы эміграцыі ў Еўропе. Нас жа ў тую Еўропу не пускаюць. Прычым, не пускаюць не еўрапейцы, а нашае роднае і нязменнае кіраўніцтва. Яно нас тым Захадам нават крыху палохае. Ну пакуль што не так жахліва як расійскае кіраўніцтва свой народ, але дастаткова стабільна. А „стабільнасць" любімае слова беларускага кіраўніцтва і яно прымяняецца абсалютна да ўсіх працэсаў. І мы стабільна дрэйфуем да той мяжы, калі на Захад вельмі захочацца патрапіць, але тады ўжо туды можна будзе патрапіць толькі ў якасці эмігранта. І праблемы еўрапейскай эміграцыі стануць актуальнымі і для вялікай колькасці беларусаў.

Эмігрантамі становяцца акурат прадстаўнікі тых краін, якія нічога ўжо не могуць паменяць на сваёй радзіме, ад якіх ужо не залежыць нічога там, дзе яны жывуць. І каб праблемы еўрапейскай эміграцыі сапраўды нас, беларусаў, мала цікавілі, трэба ўсё ж нешта рабіць тут, у сваёй каханай сінявокай. А то як нехта гэтую тэрыторыю захоча цалкам або часткамі забраць сабе, а жыхары гэтай цалкам, або пасечанай на часткі тэрыторыі масава кінуцца на Захад, то можа быць ужо позна. Еўрапейцы вельмі сур'ёзна зараз разглядаюць пытанне як абмяжаваць прыток тых, хто ў сябе не змог наладзіць годнага існавання. То можа ўсё ж трэба наладзіць яго ў сябе, тое годнае існаванне. Тады і ў Еўропу дарога будзе адчынена. І не ў якасці эмігранта, а ў статусе еўрапейца.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Штосьці не так?



Апошнія буры, тыя што былі некалькі тыдняў таму, разматлашылі Падляшша. Я не ведаю, якія шкоды яны нарабілі ў іншым месцы, але недалёка ад мясцовасці Нарва паваліла сотні дрэў, шматлікім будынкам паадрывалі дахі, пагнулі на палях даспяваючае збожжа. Хто быў застрахаваны, той верне страты. Хто гэтага не зрабіў — ці то па неасцярожнасці, ці з-за таго, што было яму не па кішэні — магчыма, ніколі не падымецца з руін. Мне дасталася таксама. У выніку ўдару маланкі ў блізкі трансфарматар згарэў мой камп'ютар. Вось, пусціў ён шыпячы дымок і згас на амін. Такім чынам, я страціў тэксты, якія сабраў на працягу амаль 10 гадоў. Вядома, я мог раней перапісаць іх на рэзервовы дыск, але ўсё мне не хапала чагосьці — ці то часу, ці то жадання, ці цярпення... Або проста не хапала ўяўлення. Карацей кажучы, я не застрахаваўся ад такога бедства. Штосьці не так з маёй галавой.

А што ў галовах іншых людзей? Ці ахвяры буры застрахаваліся супраць яе? Калі не, то дазвольце мне нагадаць вам, што Зямля толькі ўваходзіць у эпоху стыхійных бедстваў. Катастрафічныя паводкі, засухі, ураганы, землятрусы будуць узмацняцца. Перыядычна знікаючая актыўнасць Сонца, якую навукоўцы прадказваюць на дваццаць гады гэтага стагоддзя, можа прывесці да так званага малога абледзянення. Узмоцняцца за гэтым галодныя інцыдэнты, і нават войны. Вырасце некантраляваная міграцыя людзей, якую ўжо сёння не ў змозе спыніць межавыя кардоны. А што, калі яна ахопіць увесь свет? Паглыбяцца нацыянальныя эгаізмы — гэты працэс ужо бачны ў Еўропе. Ідэалагічныя і рэлігійныя экстрэмізмы абвострацца — спачатку ў лакальным, а пасля ў глабальным маштабе. Татальныя войны ахопяць свет. Хаос, які за гэтым пачнецца, верагодна, пакладзе чалавецтва на мяжы вядомай нам Гісторыі. Несумненна, цывілізацыя, якую мы ведаем, цывілізацыя інтэрнэту, сонечных панэляў, Вікіпедыі, касмічнага тэлескопа „Хабл" і герані ў дагледжаных агародах, упадзе крывавым каменем на яе дно. Але знойдзецца там таксама другая, паралельная з нашай — цывілізацыя абразы чалавечай годнасці, растаптаных сандаляў і недаядаючых дзяцей; цывілізацыя фавелаў, непісьменных, пастаяннай беднасці і адсутнасці надзеі. Як і многіх іншых да яе. Як вялікія цывілізацыі старажытнага Вавілона і Егіпта, так званай культуры Махенджа-Дара ў старажытнай Індыі, Грэцыі і Рыма, паўднёваамерыканскіх індзейцаў майя і інкаў. Пасля многіх з іх засталіся каменныя руіны, і не так шмат запісаных клінам гліняных таблічак, папірусаў маляваных іерагліфамі ці вузельцаў на чыталішчах са шнурка. А што пасля нас? Пераржэўтыя іржой камп'ютары? Гэта нашмат менш, чым піраміды. Штосьці зноў не так. Так вось, усё яшчэ маючы на задняй частцы галавы верагодны канец цяперашняй цывілізацыі, знішчэнне яе культуры і сучаснай тэхналогіі ды непазбежнасці адвечнага цыкла падзення і адраджэння чалавецтва, я звяртаюся да ўсіх, каб кожны забяспечыўся супраць яе вынікаў. Кожную надыходзячую буру сёння разглядаць як пачатак Армагедона. Надзімаючыся далёка вецер — як дыханне Армагедона. Дождж — як прадказанне Патопу. Сонечную раніцу — як пачатак абсалютнай засухі. Не адмаўляймася ад папярэджваючых думак. Няхай нам хопіць прагматычных прадказанняў. Уяўлення. Мусім старанна лічыць перш, чым пералічыцца. Застрахавацца на кожны выпадак. Зразумела, разумна. Немагчыма застрахаваць жыццё ад смерці, але купіць страхавы поліс на выпадак раптоўнай смерці можна. Не ўдасца застрахаваць маёмасць у выпадку верагоднай вайны, але ад наступстваў стыхійных бедстваў ужо трэба. Каб пасля не пляваць сабе ў бараду. Каб ад адчаю не таўчы галавой аб спаленыя камяні.

Я кажу, трэба лічыць перш, каб не пералічыць. Але не настолькі, як гэта было са мной на гайнаўскім рыначку, дзе я купляў ад сімпатычнага прадаўца крыху свежай гародніны. Ён лічыў так мае пакупкі: сем злотых за памідоры, за агуркі сем, сем за цыбулю... Разам дваццаць адзін... пяцьдзясят, — сказаў на заканчэнне ўпэўнена.

— Дваццаць адзін пяцьдзясят? — спытаўся я, каб упэўніцца. — Дваццаць адзін пяцьдзясят, — адказаў ён упэўнена. — Нешта не так? — спытаўся ў канцы.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма эўрапейца

# Новыя пад'язныя дарогі на палеткі

Дваццаць дзевяць падляшскіх гмін, у тым ліку Нараўчанская, Міхалоўская і Сямятыцкая атрымалі фінансавую падтрымку для будаўніцтва і мадэрнізацыі крыху больш за 33,6 км пад'язных дарог да сельскагаспадарчых зямель, значыць, на палеткі. Управа Падляшскага ваяводства вылучыла для гэтай мэты каля аднаго мільёна ста тысяч злотых. У мінулым годзе яна выдаткавала на іх 860 тысяч злотых (больш за 21,2 км дарог), а яшчэ год раней 720 тыс. зл. (амаль 18,5 км). 30 ліпеня перад цырымоніяй падпісання пагадненняў аб перадачы грошай у гміны маршалак Падляшша Мечыслаў Башко паведаміў журналістам, што яны атрымаюць на дарогі да 50% фінансавання, але ў сярэднім, аднак, ад 30 да 35%. Прызнаныя ў гэты раз сумы вагаюцца ад 35 да 80 тыс. зл. Усе гміны, якія хадайнічалі за гэта, атрымалі такую падтрымку. Толькі адна зняла заяву, таму што не мае сваіх уласных рэсурсаў. Маршалак прыгадаў, што змяняюцца параметры пад'язных дарог: «Гэтыя дарогі маюць шэсць з паловай метраў у шырыню. Былі калісьці ў чатыры метры, пасля ў чатыры з паловай».

Некалькі месяцаў таму ў Маршалкоўскую ўправу пададзена была прапанова стварыць спецыяльнную ваяводскую праграму па мадэрнізацыі пад'язных дарог да палёў. Мечыслаў Башко (кандыдат нумар адзін падляшскага ПСЛ у Сейм у восеньскіх выбарах) паведаміў, што яе рэалізацыя будзе залежаць ад наяўнасці ўласных сродкаў. Ён запэўніў, аднак, што ў наступным годзе гэтая тэма будзе паўторна абмеркаваная. Адзначыў: «Калісьці быў цэнтральны фонд рэкультывацыі сельскагаспадарчых зямель. Яшчэ шэсцьсем гадоў таму Міністэрства сельскай гаспадаркі на такія дарогі прызначала нам дадатковыя сродкі. Мы, мясцовы самаўрад, мелі напрыклад 500 тыс. зл. на год у сваім бюджэце, а міністр нам прызначаў дадатковыя 2 млн. зл. Мы штогод выраблялі ў ваяводстве па 80 км пад'язных дарог. Адпаведная пастанова па гэтым пытанні была зменена Сеймам і ўжо чацвёрты год мы распараджаемся толькі ваяводскім фондам. У наступны тэрмін Сейма трэба было б гэта змяніць.

Маршалак прызнаўся, што яго марай з'яўляецца расходаванне на палявыя дарогі штогод да 2 млн. зл.: «Пабачым, як разгорнецца сітуацыя наконт рэферэндуму па аэрапорце. Калі рэферэндум дакажа, што гэты аэрапорт мае быць, то такіх грошай на дарогі на палеткі не будзе. Гэтыя магчымыя грошы на аэрапорт я ахвотна выдаткаваў бы на даязныя дарогі на палеткі, на гмінныя дарогі і ахову здароўя».

У Нараўчанскай гміне, дзякуючы сёлетняму дафінансаванню ваяводскага самаўрада, магчымы будзе другі этап пабудовы дарогі (жвіроўкі) у Лешуках — 2250 метраў. Праца пачалася тут у мінулым годзе. Войт Мікалай Павільч: «У нас такіх сельскіх дарогі больш за дзвесце кіламетраў. Трэба прывесці да парадку яшчэ каля сто восемдзесят. Дарога ў Лешуках гэта быў жолаб, роў з глеістым подсцілам і ніякая машына, акрамя трактара, не магла тудою праехаць, асабліва ў летні час, калі пайшоў дождж. Акрамя таго, жыве там сапраўдны фермер. Наколькі мы можам, рамантуем дарогі ў гміне сваімі сіламі, сваім абсталяваннем. Іншай дарогай, якой хочам заняцца, з'яўляецца шлях з Новай Лукі ў Слабодку. Існуе і іншая праблема — дрэвы пры дарозе не дазваляюць даехаць на палеткі вялікай сельскагаспадарчай тэхнікай».

У Польшчы, бывае, што некаторыя гміны прабуюць накладваць падаткі за выкарыстанне сельскагаспадарчых дарог. Войт Павільч здзіўлены такімі задумамі: «На мой погляд, гэта незаконныя дзеянні. Сельскагаспадарчыя дарогі ў асноўным гэта публічныя дарогі, дык якім правам?! У нас ёсць яшчэ адна праблема. За сельскагаспадарчыя дарогі, якія не маюць публічных нумароў, гміны павінны самі абкладацца падаткам. Гэта такая віртуальная гмінная маёмасць. Гэта, на шчасце, неўзабаве зменіцца».

У сваю чаргу, напрыклад, у Міхалоўскай гміне пры падтрымцы ваяводскага самакіравання паўстане на гэты раз 1 340 метраў дарогі на палеткі ў вёсцы Тапаляны. Бургамістр Міхалова Уладзімір Кананчук: «Такіх дарог, з якімі сяляне маюць праблемы з доступам машынамі на палеткі, у нас сто кіламетраў, можа быць і больш. З сялоцтваў ёсць шмат запытаў на паляпшэнне даязных дарог, а ў нашай гміне цяжка з грашыма для гэтай мэты, таму што ўлада папярэдняга тэрміну пакінула шмат незавершаных дарожных інвестыцый, прынятых у рамках выбарчай кампаніі і неабходна іх працягваць, таму што на іх падпісаны дамовы».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Разьба Уладзіміра Мусько
## ў Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы

**Уладзімір Мусько** — гайнаўскі мастак-разьбяр, былы настаўнік гісторыі, які даследуе мінулае Гайнаўшчыны. Яго цікавая разьба прэзентавалася ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы і ў іншых месцах на Гайнаўшчыне. Спадар Уладзімір быў вучнем Бельскага белліцэя і заадно вучнем дырэктара Яраслава Кастыцэвіча, ад якога падчас сваёй прафесійнай працы стараўся пераняць прыкметы, патрэбныя настаўніку і дырэктару. Зараз Уладзімір Мусько — пенсіянер, але раней быў дырэктарам Падставовай школы № 2 у Гайнаўцы. Разьбой сур'ёзна заняўся, выйшаўшы на пенсію, а яго супрацоўніцтва з гайнаўскім жывапісцам Віктарам Кабацам перайшло ў шчырае сяброўства. Калі ў ліпені ў Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы адкрывалася выстава разьбы Уладзіміра Мусько, яго сябра Віктар Кабац расказаў сабраным пра мастацкія работы спадара Уладзіміра і яго варштат працы. У мінулым годзе выйшла з друку кніжка «Паўстанчыя сцяжынкі ў Белавежскай пушчы» пра Студзеньскае паўстанне на Гайнаўшчыне. Яе аўтарамі былі Уладзімір Мусько і Віктар Кабац. Падчас сустрэчы ў гайнаўскай бібліятэцы прэзентавалася новая кніжка-альбом «Разбуджаныя птушкі» Уладзіміра Мусько, у якой змешчаны здымкі яго разьбы і ягоныя вершы.

Дырэктарка Гарадской публічнай бібліятэкі Ала Грыц прывітала публіку, у тым ліку сяброў і знаёмых разьбяра. Вернісаж удастоілі ўдзельнікі Гайнаўскага фестывалю Булата Акуджавы, якія падчас адкрыцця выставы выступілі з кароткім канцэртам аўтарскай песні. Дырэктарка Ала Грыц расказала пра цікавую і незвычайную разьбу спадара Уладзіміра, якую мастак выконвае з карэння дрэў. Прэзентуецца яна на другім паверсе бібліятэкі.

— Разьба Уладзіміра Мусько вельмі цікавая і займальная. Па прычыне выконвання яе з карэння, яна асаблівая. Аднак, каб выканаць такія мастацкія працы з карэння, трэба многа напрацавацца, — заявіла дырэктарка Ала Грыц і пахваліла спадара Мусько за яго актыўнасць у галіне мастацтва, паэзіі і за яго актыўнае збіранне гістарычных матэрыялаў аб Гайнаўшчыне і апісванне мінулага Белавежскай пушчы і яе наваколля.

— Мастацтва Уладзіміра Мусько знаходзіцца збоку ад класічнай разьбы і няма ў ім абстрактнай ілюзіі. Мастацтва, выканане з карэння, нараджаецца ў галаве і гэта перш за ўсё інтэлектуальная работа, якая толькі пасля выконваецца ў майстэрні, з выкарыстаннем дароў натуры. Гэта вельмі рэдкая, цікавая і, можна сказаць, фенаменальная разьба, якая адклікаецца да нашай Белавежскай пушчы і яе асаблівасцей. Уладзімір разьбой з карэння вылучаецца ў Гайнаўцы. Бярэ матэрыял з натуры, адкідае тое, што непатрэбнае і, звяртаючы ўвагу на рух і колер, ствараe мастацкую працу, — сказаў гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

— Разьба амаль выключна з'яўляецца мастацтвам уяўлення. Канчатковы разьбярскі кшталт мастацкага шэдэўру можна ўбачыць не толькі пасля працы з долатам, але перад гэтай работай, у сваім уяўленні. Так паўставалі птушкі Уладзіміра Мусько. Ён іх убачыў у неапрацаваным карэнні. Гэта не долата, але востры зрок і вялікае ўяўленне далі ім крылы для канчатковага разьбярскага кшталту. Доўга гэтыя разныя птушкі, скрытыя ў зямлі, у сплеценым карэнні, кармілі магутныя дрэвы. Гэтыя птушкі неспадзявана ажылі і ляцяць у адкрытую прастору і святло. У гэтым незвычайным палёце скрываецца нейкае таемнае сумаванне і мастацкая моц прыгажосці і драмы, — лічыць гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

Падчас другой часткі сустрэчы ў чытальнай зале бібліятэкі адбылася прэзентацыя кніжкі-альбома «Разбуджаныя птушкі», якая змяшчае фатаграфіі прыгожай і цікавай разьбы Уладзіміра Мусько і яго вершы, якія высока ацанілі гайнаўскія знатакі паэзіі. Альбом выдала Гайнаўская гарадская бібліятэка, а яго рэдактарам была дырэктарка Ала Грыц.

Дзяцінства Уладзімір Мусько правёў у вёсцы Мокрае каля Бельска-Падляшскага і тут вучыўся ў першых трох класах пачатковага навучання, аб чым можна даведацца з альбома. Пасля вучыўся ў Падставовай школе ў Дубяжыне і паспяхова здабыў адукацыю ў Бельскім белліцэі.

— З дзяцінства запамяталася мне мая вёска, акружаная палямі і пралескамі. Памятаю пах зямлі і сушанага сена. З першыяду вучобы ў Беларускім ліцэі ў Бельску мне асабліва запамятаўся дырэктар Яраслаў Кастыцэвіч, які быў добрым педагогам і цудоўным чалавекам. Быў ён вельмі добрым выхаваўцам для тагачаснай моладзі і асабліва клапаціўся, каб вясковая моладзь працягвала адукацыю пасля заканчэння ліцэя, — успамінаў Уладзімір Мусько, які працягваў адукацыю ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку і пасля на Гуманітарным аддзяленні Гданьскага ўніверсітэта. — Калі я пачаў прафесійную працу ў Гайнаўцы, замест цудоўнай вясковай прыроды паявілася яшчэ больш цудоўная Белавежская пушча. Тут я пазнаёміўся з Віктарам Кабацам, жывапісцам, які глыбока разумеў значэнне і прыгажосць Белавежскай пушчы. Гэта наблізіла нас да сябе на доўгія гады. Мы супольна ладзілі выставы разьбы і пушчанскіх карцін, а гэты асаблівы пушчанскі лес, гэтае месца на зямлі, стала скарбам для маіх пачуццяў і для маёй інспірацыі.

— Відаць, што цудоўныя вершы Уладзіміра Мусько, змешчаныя ў альбоме, інспіраваныя прыгожасцю Белавежскай пушчы. У іх можна заўважыць сувязі з незвычайнай разьбой, выкананай з карэння, — сказала дырэктарка бібліятэкі Ала Грыц.

Разьба прэзентавалася таксама ў Прыродазнаўчым музеі ў Белавежы, у Нараўцы, знаходзіцца ў галерэі комплексу «Сяло Буды» ў Будах, які часта наведвае спадар Уладзімір Мусько, дзе займаецца з турыстамі. З'яўляецца ён таксама аўтарам манаграфіі «Ёсць такое месца на зямлі» пра сяло Буды ды выканаў «Будніцкую дуброву» — мастацкую задуму, выкананую ў прасторы. Здымкі разьбы гайнаўскага мастака прэзентаваліся таксама ў выданні «У крузе Белавежскай пушчы». Вельмі ўдала прэзентавалася ў бібліятэцы разьба Уладзіміра Мусько, выкананая з карэння. Сабраныя захапляліся ёю і дапытваліся мастака, як можна са звычайнага карэння выканаць так прыгожыя мастацкія працы.

— Калі я кіраваў Падставовай школай № 2 у Гайнаўцы, у ёй вучылася каля дзвюх тысяч дзяцей, з якімі займалася каля дзевяноста настаўнікаў. Тады не было часу, ні на разьбу, ні на вершы. Калі я выйшаў на пенсію, мог так арганізаваць час, каб можна было апрацоўваць карэнне, і паявілася ахвота пісаць. У прыроды я стаў вучыцца жыццю, многа хаджу па Белавежскай пушчы, назіраю за яе незвычайнасцю і прыгожасцю. З пушчы прывожу карэнне — аснову маіх прац і ў пушчы зараджаюцца думкі, якія пасля пераліваю на паперу. Для напісання верша патрэбнае натхненне, а падчас апрацоўкі карэння трэба многа напрацавацца фізічна, — сказаў Уладзімір Мусько. — Спачатку трэба знайсці адпаведнае карэнне. Калі я іду ў Белавежскую пушчу, то мой зрок заўсёды затрымліваецца на карэнні. Я аналізую, ці з яго можна выканаць мастацкую працу. Калі бачу ў карэнні нейкую фігуру, то забіраю яго дамоў. Пасля падбіраю самыя цікавыя карані і тады пачынаецца доўгая іх апрацоўка. Я нават зрабіў асабістыя механічныя прылады для апрацоўкі карэння, бо ўручную цяжка было б усё дагладзіць.



Разьбяр і паэт Уладзімір Мусько і дырэктарка бібліятэкі Ала Грыц з альбомам «Разбуджаныя птушкі»



Прыйшлося спадару Мусько працаваць таксама з каменем, якім упрыгожваў дом, які будаваў разам з сынам Андрэем, выпускніком Гайнаўскага белліцэя. Каменне выкарыстаў таксама для агароджы. Ідучы пяшком уздоўж рэчкі Лясной, прыходзіцца ісці побач дома і агароджы спадара Уладзіміра і тады бачна, што яны станоўча вылучаюцца сярод іншай гайнаўскай забудовы.

Сабраныя ў бібліятэцы звярталі ўвагу, што паэзія Уладзіміра Мусько звязаная з прыродай і мастацтвам, выкананым з карэння.

— Хаця Уладзімір Мусько вучыўся ў Бельскім белліцэі, не ведае настолькі добра беларускай літаратурнай мовы, каб свабодна пісаць на ёй вершы. Свае эмоцыі і пачуцці дасканала выяўляе на польскай мове. Яго вершы — кранальныя і цікавыя, — заявіў Віктар Кабац, аўтар графічнага праекту альбома «Разбуджаныя птушкі», у якім таксама змешчана фатаграфія адной яго мастацкай працы. Здымкі разьбы выканалі для альбома вядомыя ў Гайнаўцы фатографы Ян Анціпаў і Ежы Вуйцік.

— Калі Владак выязджаў адпачываць на Семяноўскае вадасховішча, вяртаўся з прычэпам поўным карэння, з якога выбіраў самае цікавае, што бачым сёння на выставе. Выконваў ён таксама незвычайную, прыгожую драўляную мэблю, аб чым зараз мала ведаюць, — гаварыў падчас сустрэчы Леанард Кульваноўскі.

Спадар Уладзімір Мусько і дырэктарка бібліятэкі Ала Грыц паведамілі сабраным, што было прынятае рашэнне, каб сродкі ад продажу кніжкі-альбома «Разбуджаныя птушкі» былі перададзены на адбудову майстэрні гайнаўскага мастака Збігнева Будзынскага, якая згарэла. Удзельнікі сустрэчы ў бібліятэцы таксама сабралі сродкі на адбудову майстэрні.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Нараўчанскае Таварыства

Таварыства прыяцеляў Нараўчанскай зямлі (ТПНЗ) заснавалі напрыканцы 2002 года. Зараз належаць да яго не толькі жыхары Нараўчанскай гміны, але і з многіх гарадоў нашай краіны, у якіх пражываюць нашы выхадцы.

Нядаўна адбыліся перавыбары ўлад Таварыства. Старшынёю выбралі Тамару Крышань, сакратаром — Анну Стульгіс, скарбнікам — Алімпію Павільч. У склад праўлення ўвайшлі Вольга Здаsuccо́ўская-Місяюк і Тадэвуш Кшыжанскі.

18 ліпеня гэтага года ТПНЗ з нагоды 15-й гадавіны смерці Тамары Саланевіч, выдатнай кінарэжысёркі родам з Нараўкі, ладзіла вечарыну з дэманстрацыяй яе кінафільмаў. А 24 ліпеня арганізавала Летні баль у «Царскай комнаце» ў Двары бортніка (пчаляра) у Нараўцы. Намерана яно арганізаваць інтэграцыйную бяседу для жыхароў Нараўкі і навакольных вёсак ды Летні веласіпедны рэйд да помнікаў прыроды ў Нараўчанскай гміне. ТПНЗ мае багатую праграму дзейнасці ў карысць малой айчыны.

Таварыства прымае ў свае рады новых членаў, творчых людзей, актывістаў. З гэтым трэба звяртацца да членаў праўлення, між іншым, да Анны Стульгіс (працуе бібліятэкаркай у Гміннай публічнай бібліятэцы ў Нараўцы) і Алімпіі Павільч (працуе медсястрой у мясцовым Гмінным асяродку здароўя).

## Таварыства «Ятрышнік»

Таварыства «Ятрышнік» у Лешуках (Нараўчанская гміна) дзейнічае пяць гадоў. Зімой праўленне (Альжбета Кунцэвіч — старшыня і Галена Рэент — намеснік старшыні) ладзіла навагоднія балі, катанні на санках (кулікі) ды напрадвесні святкаванні Дня жанчын, а вясной красілі яйкі ў цыбульніку. На школьным аўтобусе ездзілі ў Галерэю імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (экскурсія ў галерэю была адной з цікавейшых). Наведалі вопытную ткачыху ў Новым Ляўкове.

Кожны год плануюць нешта новае. Пачалі арганізаваць адну-дзве аўтарскія сустрэчы ў год. Найперш з беларускімі паэтамі, якія жывуць у Нараўчанскай гміне. Усе сустрэчы прайшлі паспяхова, прыходзіла на іх шмат слухачоў.

Два гады таму арганізавалі дажынкі (жалі жыта сярпамі і касілі косамі з г.зв. фартухамі) ды ставілі «перапёлку». У мінулым годзе пяклі вясельны каравай у печы ў святліцы. А сёлета супольна кансервавалі мяса — з удзелам вопытных у гэтай справе мясцовых вясковых гаспадынь. Спрабавалі, удалося.

## Канцэрт замежных калектываў

У ціхі пагодлівы вечар 25 ліпеня гэтага года ў амфітэатры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбыўся летні канцэрт замежных танцавальна-песенных калектываў «Салавейка» і «Танок» з Расіі ды «Чаркашчанка» з Чаркасаў з Украіны. Усе яны выступілі ў прыгожых народных касцюмах. Артысты выканалі шмат дзясяткаў песень і танцаў. Іх выступы глядзелі жыхары Нараўкі, Альхоўкі, Лешукоў, Новага Ляўкова і Скупава.

На сцэне спявалі мастацкія калектывы і салісткі. Песні былі лірычныя, прыгожыя, задушэўныя, а танцы — віхурыстыя. Звонкія песні і музыка плылі-луналі па ўсёй ваколіцы над ракой Нараўкай.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ТАМ ЗА ЛЕСАМ


Пётр Тадорчук і Тадэвуш Карповіч: у Грабоўку даедзеш гарадскім беластоцкім транспартам

У маі, тыдзень перад рэферэндумам, які мае вырашыць, ці жыхары Супрасльскай гміны (14 258 асоб) згодны аддзяліць ад сябе палову свае тэрыторыі і палову жыхароў і дазволіць стварыць «За Лесам» — гміну ў пасёлку Грабаўка, сустракаемся ў Агароднічках, на сямейным фэсце мясцовасці, традыцыйна арганізаваным Гуртком вясковых гаспадынь і Цэнтрам культуры і адпачынку ў Супраслі. На імпрэзу як заўсёды багатую, што збірае на свята жыхароў усяе гміны і гасцей з Беластока, жанчыны з калектыву «Журавінкі», якому ўжо каля сарака гадоў, запрашаюць калектывы з суседніх гмін і са свае, як «Арабінка» з Каракуляў ці «Мальвянкі» з падвасількоўскіх Студзянак — якія прадстаўляюць перш за ўсё беларускі фальклор. А ўсе яны сёння ўсхваляваныя — ад цётачак з Агароднічак, да бургамістра Супраслі Радаслава Дабравольскага — і гэтым рэферэндумам, і адчаем «сепаратыстаў», што хочуць адлучыць багаты кавалак гміны і стварыць новую. Там за Лесам.

Гэта не першы падыход у справе адлучэння Грабаўкі (3 268 асоб). Такія спробы рабіліся ўжо некалькі разоў. Мала таго, у 2003 г. гэта радныя Супраслі дамагаліся ад падляшскага ваяводы кансультацыі ў справе адлучэння Грабаўкі ад Супраслі і далучэння яе да Беластока. Ваявода, аднак, тае заявы не разглядаў быў, бо не мела яна ніякай дзейснай сілы.

Жыхарка Краснага Лесу — невялікага пасёлка побач Супраслі, што пасля падзелу будзе належаць да гміны Грабаўка, спадарыня Аляксандра Бушко:

— Наш Красны Лес ляжыць у трох кіламетрах ад Супраслі і трынаццаці ад Грабаўкі. Шаснаццаць чалавек у нас жыве. Гэта леснікі і члены іх сем'яў. Падзел гміны быў бы абыякавым для нас, калі б мы маглі застацца з Супраслю, але ў прапісцы мы ўведзены ў акругу Сабалева, і будзем належаць да новай гміны. Ну, і як я дабяруся да Грабаўкі? Як у Грабаўку да лекара, у гміну ў Грабаўку, і для чаго? У Супрасль дабяруся з цяжкасцю, але і пешшу неяк магу дайсці. А так трэба было б дабірацца з Краснага Лесу: у Супрасль, пасля ў Беласток, а потым у Грабаўку. З Краснага Лесу няма ніякага з ёю непасрэднага спалучэння. Лягчэй маюць маладзейшыя жыхары, ездзяць на машынах.

— Але я ў Грабаўку не хачу, — кажа Віялета Юрэвіч. — Маем тры кіламетры ў медыцынскі цэнтр, на адукацыйныя заняткі, якія неабходны для нашых дзяцей, у школу, у банк, аформіць рабіць розныя справы па пошце. А так трэба будзе кругаля за той Лес.

— Гэта міністр звярнуўся быў у Гарадскую раду ў Супраслі, каб правесці грамадскія кансультацыі на падставе ранейшых заяў ініцыятыўнай групы «за Лесам», а не лакальнага рэферэндуму, — кажа «Змагар». — Рэферэндум быў толькі зборам думкі для міністэрства, а быў выслуханы голас жыхароў «за Лесам», якія ад гадоў змагаюцца за вяртанне гміны Грабаўка. Чуеце, ці ў справе выхаду нейкай краіны з Еўрасаюза маюць галасаваць жыхары ўсяго Еўрасаюза, ці толькі тае краіны? Правядзенне рэферэндуму ва ўсёй гміне Супрасль лічу марнатраўствам публічных сродкаў, выказацца павінны былі толькі жыхары «За Лесам», а не Супрасль, якая ясна паказала, што справа не ў грамадскіх сувязях і развою гэтых адрозных тэрыторый, а толькі ў касе, якой у іх будзе менш. Калі пытанне пра пасады, дык створаная камісія падзеліць


Бургамістр Супраслі турбуецца

чыноўнікаў усёй гміны на дзве ўстановы. У Супрасльскай гміне занятыя каля 50 чыноўнікаў, а для гарантавання неабходных задач адзінкі тэрытарыяльнага самаўрада хопіць крыху дзясятак. Вось у Гміннай управе ў Гарадку працуе толькі 17 чалавек.

У рэферэндуме жыхары Краснага Лесу прагаласуюць пасля супраць падзелу муніцыпалітэта. Таксама яны выпусцілі ліст уладам Супраслі — надалей без адказу.

— Рашэнні ў гэтай справе змяняліся кожны тыдзень. Міністэрства раз хацела, а іншым разам не хацела даць згоды на падзел, — кажа бургамістр Дабравольскі. — Мы ў гміне Супрасль думалі, што будзе прымацца пад увагу вынік майскага рэферэндуму. Тады 55 працэнтаў галасуючых было супраць падзелу Супрасльскай гміны. Мы заклікалі таксама ўрад і міністэрства, каб пакінулі гміну ў цяперашніх межах. Высылалі прэм'ер-міністру Еве Копач многа прашэнняў і зваротаў. Мы пратэставалі супраць распараджэння МАіЛ і звярталіся ў розныя канстытуцыйныя органы. Людзі выслалі таксама больш за 800 пратэстацыйных мейлаў да спадарыні прэм'ер. Я баюся, што пасля падзелу наша Супрасльская гміна стане банкрутам. Яшчэ нядаўна чыноўнікі ведамства адміністрацыі адмоўна ставіліся да ўтварэння новага самаўрада. Прыкмячалі, што на тэрыторыі планаванай гміны Грабаўка не хапае асяродка сацыяльнай дапамогі, культуры, дзіцячага садка ці камунальнага прадпрыемства. Праблемай з'яўляецца таксама недахоп месца для ўтварэння сядзібы гміны. Міністр завельмі давяраў некальkім асобам, а не хоча слухаць голасу большасці жыхароў гміны. Гэта проста замах на лакальны самаўрад! Міністр павінен прыняць пад увагу вынікі майскага рэферэндуму, у якім жыхары Супрасльскай гміны адмовіліся падтрымаць раскол гміны. Міністэрскае рашэнне гэта замах на самакіраванне ў 25-годзе яго існавання!

Затое спадар Пётр Тадорчук з Грабаўкі таксама спасылаецца на дэмакратыю:

— Вось яна, дэмакратыя, пераможа. Першы раз за 25 гадоў, ад узнікнення самакіравання ў Польшчы, урад мае шанц падтрымаць нашу ініцыятыву. Мы пару гадоў з групай жыхароў Грабаўкі змагаліся за адлучэнне ад гміны Супрасль. Новая гміна мае мець сядзібу ў Сабалеве. Будзе функцыянаваць ад 1 студзеня 2016 года. Гмінная ўправа магла б змяшчацца ў святліцы ў Сабалеве або ў нанятым будынку. Не згаджаўся на гэта бургамістр Супраслі, паколькі святліца належыць да гміны, а Цэнтр культуры і адпачынку вядзе там культурную дзейнасць.

На раскольніцкай тэрыторыі ў рэферэндуме выйгралі, вядома, прыхільнікі новага самаўрада. Абвінавачвалі яны ўлады ў шматгадовых інвестыцыйных занядбаннях. Каб паказаць свой адчай, прыхільнікі адлучэння гміны ў канцы ліпеня сарганізавалі акцыі пратэсту — у выглядзе часткoвай блакады дзяржаўнай дарогі № 65 у раёне кальцавой у Грабаўцы.

Людміла Савіцкая, солтыска Сабалева:

— Пачалі ў нядзелю. Прыхільнікі падзелу запавольваюць рух на дарозе кожны дзень з 17.00 да 19.00 да канца ліпеня. Я разумею аргументы жыхароў Краснага Лесу: гэта група толькі шаснаццаці жыхароў, так што для мяне гэта свайго роду аргумент трохі смешны, калі гаворка ідзе пра дабро больш за сямі тысяч жыхароў. Я таксама не веру ў сумленнасць жыхароў Краснага Лесу. Успрымаю гэта як маніпуляцыю з боку ўлад Супраслі.

Апошняе рашэнне Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі — раздзяліць Супрасльскую гміну і стварыць Грабаўскую гміну з сядзібай у Сабалеве. 28 ліпеня міністр адміністрацыі Анджэй Галіцкі паінфармаваў на твітары аб рашэнні ўтварэння новай гміны Грабаўка. «Жыхары змагаліся за гэта здаўна, — дадаў. — Рашэнне пацвердзіў урад. За адлучэнне ад Супраслі жыхары Грабаўкі змагаліся, паколькі лічылі, што Супрасль не інвестуе ў Грабаўку. Змаганне працягвалася больш дзясятка гадоў. Гміна Грабаўка знікла з картаў у сямідзясятыя гады, калі была ўключана ў Супрасльскую гміну.

«Верым, што міністэрства і ўрад дадуць нам шанц на еднасць, — казаў яшчэ тыдзень таму Марыюш Жукоўскі, сакратар Супрасльскай гміны. У склад новай гміны ўвойдуць Засцянкі, Грабаўка, Генрыкова, Сабалева, Саўляны і Красны Лес.

— Маем школу, амбулаторыю, чатыры святліцы і філіял гміннага асяродка сацыяльнай апекі, — пералічвае солтыс Тадэвуш Карповіч гмінную (яшчэ супрасльскую) маёмасць. — А наняць на сядзібу гміны можна святліцу ў Сабалеве або і два іншыя будынкі.

— Я жыву ў Сабалеве, — кажа Міла. — Буду ўнікліва глядзець на рэкрутацыю на новыя пасады, а цэлы «сыф» будзем агучваць, каб людзі пра ўсё ведалі і бачылі. Калі мае быць новая гміна, то каб не было ніякіх сямеек ва ўправе, і каб былі ясныя крытэры прыёму на працу. Каб ніякіх важных функцый не выконвалі людзі, якія праз стварэнне новай гміны хочуць аформіць сабе прыватныя інтарэсы. Напрыклад, нейкі пан Мечыслаў, які ў Сабалеве мае да продажу ўчасткі, будучы войтам новай гміны, будзе «залатвяць» свае прыватныя інтарэсы. Такім людзям мы падзякуем. Патрабуем сумленных і працавітых людзей, якія штосьці хочуць зрабіць для сваёй гміны, а не нахапацца пры карыце і даць працу сваёй сямейцы.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# У тэрміновым рэжыме

Незалежна ад заявы ў размове з «Нівай» маршалак Сейма Малгажаты Кідавы-Блонскай, што ў гэтым скліканні Сейма не будзе прынята папраўка ў Закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове, праца над парламенцкім законапраектам аб унясенні змен працягваецца як так званы грамадзянскі праект папраўкі, які тычыцца законнага надання статусу нацыянальнай меншасці сілезцам. Увогуле ў Сейм трапілі чатыры праекты навелізацыі згаданага закона. «Ніва» была сведкам разгляду парламенцкага законапраекта, пасля яго першага чытання, на сумесным пасяджэнні парламенцкіх камісій па нацыянальных і этнічных меншасцях ды адміністрацыі і лічбавізацыі. Пераважная большасць прысутных дэпутатаў была згодная: «Гэты праект трапіць на чытанне на пленарным пасяджэнні і папраўка будзе ўзаконена». Такое ёсць абяцанне Грамадзянскай платформы.

Праект, пад якім подпісы паставіла група шаснаццаці дэпутатаў, у тым ліку падляшскі дэпутат Яўген Чыквін, віцэстаршыня сеймавай камісіі нацыянальных меншасцей (СЛД), быў прадстаўлены на разгляд парламента толькі 10 чэрвеня. Ужо 23 чэрвеня адправілі яго на апрацоўку ў камісіі меншасцей і адміністрацыі з рэкамендацыяй кансультацый ў камісіі мясцовага самакіравання. У аб'яднаных камісіях першае чытанне адбылося 21 ліпеня, а 4 жніўня былі разгледжаны і прагаласаваны тут папраўкі, а на наступны дзень падрыхтавана была справаздача і цяпер праект мае трапіць пад другое чытанне на пленарным пасяджэнні Сейма, а затым у Сенат, адкуль вернецца (з чарговымі зменамі або без) у Сейм на трэцяе чытанне і заключнае галасаванне. Згодна з графікам прац Сейма (на момант пісання гэтага тэксту) да парламенцкіх выбараў у кастрычніку засталіся яшчэ тры яго пасяджэнні, хоць у Сейме кажуць, што мае быць яшчэ адно, дадатковае.



■ Падляшскія дэпутаты (злева): Аляксандр Сасна, Яцэк Жалек і Дам'ян Рачкоўскі

* * *

Карацей кажучы, змены ў закон, які ўступіў у сілу больш чым дзесяць гадоў таму (для зацікаўленых у дэталях: сеймавы друк навелізаванага закона носіць нумар 3545), вынікаюць з рэкамендацый міжнародных арганізацый, Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных ды этнічных меншасцей, Вярхоўнай кантрольнай палаты і Міністэрства юстыцыі. Законапраект аб унясенні зменаў удакладняе вызначэнне тэрмінаў «арганізацыя нацыянальных меншасцей» і «ўстанова культуры, якая мае важнае значэнне для культуры нацыянальных і этнічных меншасцей». Ідэя заключаецца ў тым, каб выразна паказаць, якія арганізацыі могуць удзельнічаць у прызначэнні або адборы кандыдатаў у Сумесную камісію з боку меншасцей, і каб было ясна, якія арганізацыі могуць падаваць заяўкі на гранты, арыентаваныя на нацыянальныя і этнічныя меншасці. Таксама ўносіцца запіс аб выкарыстанні дапаможнай мовы перад уладамі паветаў і ўстаноў, якія знаходзяцца ў іх падпарадкаванні. Законапраект таксама рэгулюе ўвядзенне права на выкарыстанне дапаможнай мовы перад органамі гміны і паветаў грамадзянамі дзяржаў-членаў ЕС. Таксама прапануецца магчымасць устанаўлення ўпаўнаважанага па нацыянальных і этнічных меншасцях войтам, бургамістрам, старостам або маршалкам ваяводства. Зараз закон прадугледжвае ўпаўнаважаных пры ваяводах. Папраўка таксама рэгулюе пытанні звязаныя з прызначэннем, функцыянаваннем і тэрмінам паўнамоцтваў (пяцігадовым, калі гаворка пра меншасны бок) Сумеснай камісіі.

Законапраект аб унясенні зменаў таксама рэгулюе ўдзел прадстаўнікоў меншасцей у праграмных радах тых асяродкаў публічных СМІ, у якіх рэалізуюцца і транслююцца праграмы для нацыянальных і этнічных меншасцей. Акрамя таго, апынуўся ў ім запіс аб тым, каб у конкурсах на дырэктараў школ, у якіх выкладаецца мова меншасці, таксама прысутнічалі прадстаўнікі меншасцей.

* * *

Намеснік міністра адміністрацыі і лічбавізацыі Станіслаў Гусоўскі перад уваходам на пасяджэнне спалучаных камісій сказаў нам, спасылаючыся на заяву ў «Ніве» маршалак Сейма:

— Мабыць, спадарыня маршалак не верыць, што працэдура завяршаецца. Сур'ёзныя шанцы на зацвярджэнне змен у закон у гэтым скліканні Сейма ўсё ж існуюць, але няма ўпэўненасці, асабліва калі Сенат не захоча ўнесці папраўкі. Але я аптыміст. На гэтых змяненнях залежыць меншаснаму боку Сумеснай камісіі.

Дэпутат Рышард Галя (нямецкая меншасць), які прадстаўляе заяўнікаў навелізацыі:

— У некаторых месцах палажэнні закона былі ледзь чытабельнымі, паявіліся былі розныя інтэрпрэтацыі, нават на ўзроўні Сумеснай камісіі. Я думаю, што кааліцыя ГП-ПСЛ будзе схільнай для таго, каб прагаласаваць папраўкі на працягу гэтага тэрміну паўнамоцтваў парламента, хутчэй за ўсё ў кастрычніку.

Адзін з прадстаўнікоў меншаснага боку ў Сумеснай камісіі, прысутны на пасяджэнні спалучаных сеймавых камісій Рыгор Купрыяновіч, старшыня Украінскага таварыства ў размове з журналістамі «Нівы» і Радыё Рацыя адзначыў:

— Пытанняў для ўпарадкавання, удакладнення ў гэтым законе па-ранейшаму вельмі шмат, напрыклад, справа палітычнага прадстаўніцтва, якая тут ніяк не рэгулюецца і спрычыняецца да таго, што без падтрымкі вялікіх палітычных сіл меншасці ў Польшчы, акрамя нямецкай, не маюць магчымасці мець сваё прадстаўніцтва ў парламенце. Акрамя таго, 20-працэнтны парог, патрэбны для ўвядзення двухмоўных назваў і дапаможнай мовы, для многіх меншасцей з'яўляецца надта высокім. Сумесная камісія прапанавала зніжэнне парога да 10 працэнтаў. Рашэнне, аднак, за дэпутатамі. На пачатак прымем гэтыя папраўкі, якія ў некаторых пытаннях будуць спрыяць функцыянаванню саміх меншасцей, дзяржаўных органаў і на стыку меншасных арганізацыі — дзяржаўныя органы.

Дэпутат Яўген Чыквін меў некалькі сумненняў да запісаў, якія былі ўключаны ў законапраект аб унясенні зменаў і ў цэлым законе. У канчатковым рахунку ён устрымаўся ад галасавання (астатнія дэпутаты — толькі 10, якія засталіся ў зале з агульнага ліку 43, прагаласавалі за папраўкі ў закон). Пасля сустрэчы ён сказаў журналістам:

— Гэта дэпутацкі праект, але з выразнай палітычнай і існай падтрымкай урада. Таму ёсць шанц на ўвядзенне яго ў гэтым скліканні. Я ўстрымаўся ад голасу, але таксама складаю самакрытыку. На момант прыняцця намі Закона ў 2005 годзе не ўвялі мы ў яго запісу аб тым, што элементам падтрымання самабытнасці меншасцей, побач мовы ці традыцыі, таксама з'яўляецца рэлігія. Вынікам з'яўляецца тое, што ўсё звязанае з рэлігіяй, напрыклад, праваслаўнай культурай, не можа быць прафінансавана з моцы гэтага закона. Гэта абсурд. Я прапанаваў, каб пашырыць запіс на гэты элемент. Калегі, нават у прэзідыуме камісіі, былі супраць. Таксама памылкай з'яўляецца запіс прызнання меншасцю грэкаў у Польшчы. Так што ў канчатковым рахунку я ўстрымаўся ад голасу.

Прапановы Яўгена Чыквіна, як г.зв. прапановы меншасцей, будуць пастаўлены на галасаванне на пленарным пасяджэнні ў другім чытанні.

У сваю чаргу, здзіўленне апазіцыйнага клуба Права і справядлівасць выклікаў тэрміновы рэжым правядзення папраўкі. Яго дэпутаты закранулі пытанні абцяжарання коштамі іх ажыццяўлення павятовых самаўрадаў, якія і так змагаюцца з вялікімі фінансавымі праблемамі. Наогул, ПіС не згодны з пашырэннем рэгіянальнай мовы на паветы. Ужо ў першым чытанні дэпутаты прапанавалі адмовіцца ад законапраекта і пакінуць закон без зменаў, таму што ён добра функцыянуе, як сказала ў ходзе разгляду папраўак дэпутатка ад клуба ПіС Дарота Арцішэўская-Мялеўчык.

Калі Законапраект аб унясенні зменаў у закон аб меншасцях не будзе прыняты ў гэтым скліканні Сейма, заканадаўчыя працы над ім трэба будзе пачаць у наступным Сейме з самага пачатку. Калі наогул яны тады пачнуцца.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Балотная ліга чэмпіёнаў

25 ліпеня 2015 г. у Чаромсе праходзілі Клубныя спаборніцтвы Еўропы па балотным футболе. За арганізацыю гэтага мерапрыемства пахадайнічаў член каманды „Тарфяны Д-р Туш" Беласток Міраслаў Самасюк. Мэтай мерапрыемства была папулярызацыя здаровага ладу жыцця і распаўсюджванне балотнага футбола, таксама параўнанне польскіх калектываў з еўрапейскімі камандамі гэтага віду спорту.

Выбар невыпадкова паў на Чаромху. 24-26 ліпеня праходзіў тут XX Міжнародны фестываль шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка". Гэта быў зручны выпадак для інтэграцыі і супольнай забавы людзей Усходу і Захаду, Поўначы і Поўдня. Дэвізам Лігі балотнага футбола (Swampions Soccer League) з'яўляецца лозунг „Давайце паліваццa балотам на спартыўнай пляцоўцы, а не ў рэальным свеце".




Розыгрышы адбыліся ва ўрочышчы Каганка ў месцы старога нявыкарыстанага басейна. На патрэбы спаборніцтваў былі збудаваны дзве пляцоўкі. Спартыўнае саперніцтва пачалося з дзявятай раніцы. Удзельнічала 18 каманд, у гэтым ліку 2 жаночыя ды 16 мужчынскіх. Прыехалі спаборнікі з усёй краіны, а таксама з Беларусі, Літвы, Расіі і Турцыі, а нават з далёкай Нігерыі. Жаночыя каманды не саперанічалі за прыз адно разыгралі паказны матч. Мужчынскія гулялі ў чатырох групах (A, B, C, D) — па чатыры каманды ў кожнай. Пасля першага перыяду групавых розыгрышаў дзве найлепшыя каманды з груп A і B стварылі групу E, а з груп C і D — групу F. Каманды, якія апынуліся на II месцы, сустрэліся ў Малым фінале і разыгралі матч за III месца, затым пераможцы сустрэліся ў Вялікім балотным фінале. Розыгрышы доўжыліся дзесьці да пятай пасля абеду пры шматлікай публіцы. Большую частку складалі, разумеецца, прыезджыя госці, але і чарамшан было шмат. Саперніцтва было заўзятае і эмацыянальнае як для футбалістаў, так і для публікі. Матчы разыгрываліся адначасова на мяжуючых побач сябе пляцоўках з тым толькі, што другая пляцоўка знаходзілася пад вадою, а большую частку першай пакрывала балота. На гэтай пляцоўцы лягчэй было іграць. У канчатковым выніку перамагла каманда Orzeł Niva/Kleszczele, II месца — BKP Rakovia Gepard, III — LC Chełm. Афіцыйныя вынікі спаборніцтваў і ўручэнне прызоў былі аб'яўлены публічна на юбілейным XX Фестывалі шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка". Гэта было сапраўды цудоўнае відовішча для публікі. За гэта арганізатарам належацца словы падзякі і пашаны.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# КАРОЛЬ І КАШУЛЯ

*(украінская казка)*

Адзін кароль захварэў. Ён доўга думаў, а пасля сказаў:

— Аддам палову каралеўства таму, хто мне верне здароўе.

Сабраліся дарадчыкі і мудрацы. Думалі яны, думалі — нічога не прыдумалі.Толькі адзін з іх нясмела прапанаваў:

— Трэба знайсці шчаслівага чалавека, зняць з яго кашулю ды надзець на караля. Тады наш пан паздаравее.

Кароль выправіў пасланцоў, каб адшукалі шчаслівага чалавека. Яны доўга ездзілі па цэлай краіне і не знайшлі шчаслівага чалавека. Кожны на нешта наракаў.

Аднойчы, вечарам, каралеўскі сын праходзіў побач беднай хаткі і пачуў такое:

— Вось як хароша! Работа зроблена, яда смакавала і спаць хочацца. Больш нічога мне да шчасця непатрэбна.

Малады князь рашыў купіць у чалавека кашулю. Ён вярнуўся ў палац і загадаў слугам, каб ішлі да чалавека і прынеслі яго кашулю. Пайшлі яны. Знайшлі таго чалавека і разгубіліся. Шчаслівы чалавек быў настолькі бедны, што ў яго не было кашулі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



# Чаму «Шпакоўня»?

Ужо ў першы дзень мы ведалі, што наша газета будзе так называцца. Тады на Сустрэчы завітаў спадар Яўген Вапа, які цікава распавёў пра прыроду і вершы. Звярнуў ён таксама ўвагу на старэнькую сасну, на якой вісела шпакоўня. Мы падумалі, што так можам назваць сваю газету. Дом птушанят напамінаў нам дарастанне і навуку. У склад нашай рэдакцыі ўваходзіў сустрачанскі ветэран Крыстыян Паскробка. Ён на Сустрэчах ужо чацвёрты раз. У нашай газеце знойдзеце яго вершы і апавяданне «Як ліха вадзіла». У нашай групе ёсць таксама здольныя мастакі Патрыцыя Чамярыс і Эліза Матус. У нумары прачытаеце вершы Улі Падгаецкай. Большасць газеты рэдагавала Юстына Марчук. У нас таксама «Карыкатуры на беларусаў Падляшша» і настольная гульня «Сустрачанскім шляхам». За тыдзень наша рэдакцыя зжылася як вялікая сям'я. Запрашаем да чытанкі!

*Максім Фіёнік, галоўны рэдактар «Шпакоўні»*




## УВАГА КОНКУРС! № 33-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 23 жніўня 2015 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Дзяцюк малады
Любіць бульбу,
жалуды.
У яго на спіне
Жорсткае шчаціне.
Мае іклы, капыты,
Каб яго баяўся ты.
(Дз..)

Нырае ныралачка
З хвосцікам русалачка.
Ныраць перастане —
Трымай сукню, Таня!
(Іго...)

Н. А. Сторажава

**Адказ на загадкі № 28-15: суніца, расінкі. Узнагароду, сумку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграла Мальвіна Сахарчук з Беластока. Віншуем!**

*Клаўдзія Галінская – „Сустрачанскія навіны"*

## Думаю

*Часта я хаджу на могілкі,*
*Думаю,*
*Шукаю блізкай душы.*
*Калі я так хаджу,*
*Думаю*
*Пра маіх продкаў, пра сям'ю.*
*Не ведаю, што хачу там знайсці.*
*І думаю,*
*Думаю пра цябе.*

# Інтэрв'ю з журналістам Міколам Ваўранюком.

## Чалавек СМІ




Малюнак «Мікола Ваўранюк» Элізы Матус

Рэдакцыя „Вокны Беларусі": — З якога свайго фільма Вы найбольш задаволены?

Мікола Ваўранюк: — Я думаю, такі фільм яшчэ перада мной. А так сапраўды, я найбольш задаволены з апошняга — „Гаворадь беларусы Падляшша", бо я яго моцна перажыў. Ён шчыры і многа расказвае і пра мяне, і пра свет, у якім я вырас. Там, дзе выступаюць мае блізкія, там таксама блізкія мне гісторыі.

ВБ: — Вы працуеце ў розных медыях. Якую працу Вы найбольш любіце?

МВ: — Для мяне ўсе масмедыі з'яўляюцца тэхнічным спосабам перказу тых жа самых гісторый. Я магу тую самую гісторыю сесці і спісаць на паперы, магу гэта запісаць на магнітафон і перадаць па радыё, або паехаць з тэлекамерай і зняць перадачу для тэлебачання. Кожная праца крышку розніцца, але, па-мойму, чалавек найбольш адчувае сябе журналістам, калі піша. Мы маем тады найбольшую свабоду. Медыі розняцца тэхнічна, а і так ідуць да аднаго, каб спісаць і перадаць гісторыю. Напэўна больш люблю сустракацца з людзьмі, чым сядзець у адным месцы, у студыі. Сустрэча з людзьмі гэта тое, што мне найбольш падабаецца ў працы журналіста.

ВБ: — З чаго трэба пачаць, каб працаваць у медыях?

МВ: — Напэўна з таго, што мы мусім прачытаць шмат кніжак. Нам можа здавацца, што маем геніяльныя думкі, і што ўсе толькі чакаюць, каб мы тымі думкамі падзяліліся, а гэта няпраўда. Бо да нас і перад намі напісалі геніяльныя кніжкі, зрабілі геніяльныя фільмы. Што не значыць, што не трэба паўтараць таго, што яны зрабілі, але не трэба таксама лезці праз акно, калі нехта адчыніў нам дзверы. Варта расказаць сваю гісторыю, можа не геніяльную, але сваю. Можна калектыўна падрыхтаваць спектакль, напісаць верш ці расказаць гісторыю сваёй бабулі — тое, што для нас самае дарагое, самае важнае. Яно таксама тады будзе для іншых цікавым.

ВБ: — Што Вы думаеце пра колішнюю і цяперашнюю моладзь? Якія адбыліся змены?

МВ: — Няма чаго наракаць на маладых. Напэўна чулі вы такую прымаўку: „Старасць не радасць, але і маладасць не вечнасць". Я думаю, што цяперашняя моладзь не вельмі розніцца ад ранейшай, бо і адны, і другія вельмі файныя. Адна розніца такая, што цяперашняя моладзь мае больш магчымасцей, між іншым, доступ да інтэрнэту, да інфармацыі. Яны даюць многа магчымасці, але трэба ўмець імі карыстацца. Проста, свет ляжыць перад вашымі нагамі. Аднак у гэтым хуткім свеце сучасная моладзь можа лёгка згубіцца, таму трэба шмат вучыцца.

ВБ: — Мы ведаем што Вы вучыліся ў польскім ліцэі. Чаму Вы не пайшлі ў белліцэй?

МВ: — У нас няма беларускіх ліцэяў, а ў маім выпадку вырашальным было тое, што мой сябра быў упэўнены, што пойдзе ў польскі ліцэй. Мне проста не было з кім ісці ў беларускі, бо з майго класа ніхто туды не ішоў. Гэта была адна з прычын. А другая такая, што ў пачатковай школе я любіў матэматыку, а ў польскім ліцэі быў матэматычна-фізічны клас. У беларускім не было профіляў. Аднак з матэматыкай не ўдалося. Я вырашыў вучыцца на гістарычным факультэце.

ВБ: — Вы, як адзін з нямногіх выпускнікоў польскага ліцэя, пісалі матуру па беларускай мове? Як гэта было?

МВ: — Гэта быў больш клопат для тых, што арганізавалі для мяне такую матуру. Я сам не адчуваў, што раблю нешта незвычайнае, бо з беларускай мовай я ніколі не парваў.

ВБ: — Дзякуем за размову!

МВ: — Дзякую!

Апрацавала Оля Зінкевіч
*— „Вокны Беларусі"*

## Перасоўвалі мяжу за бочку мёду

На Сустрэчы «Зоркі» завітала творчае сужонства Аліна і Мікола Ваўранюкі, якія прыблізілі нам сваю дзейнасць. Сябры з рэдакцыі «Шпакоўня» ўзялі ў іх інтэрв'ю. Мы таксама паглядзелі фільм «Гаворадь беларусы Падляшша», які распавядаў пра герояў спектакля «Ой, даўно-даўно». Гэтую знакамітую пастаноўку, з удзелам сваіх вучняў, спадарыня Аліна рыхтавала больш за тры гады. Падляшскія хронікі складзены з сапраўдных гісторый старэйшых людзей, якія распавядаюць іх сваім унукам.

Пасля мы аглянулі рэпартаж спадара Міколы пад загалоўкам «За бочку мёду», дзе мясцовыя людзі распавядаюць гісторыю перасоўвання мяжы каля вёскі Апака. Гутарку з людзьмі вядзе пісьменнік Міхась Андрасюк, які таксама быў неаднойчы госцем Сустрэч.

Сустрэча са спадарствам Алінай і Міколам Ваўранюкамі нам падабалася, яна была акрашана гумарам і наклікала многа рэфлексій.

Міхась Сахарчук
і Наталля Васько
– «Сустрачанскія навіны»

## Кошчыны імяніны

Сёння слаўная гасціна:
кошкі Муркі імяніны!
Панеслася вестка ў даль:
будуць госці, будзе баль!
Узяў кот Мурзік сваіх дзетак,
напярэдак сам з букетам
вітаць кошачку ідзе,
дружна ўсіх з сабой вядзе.
Сваю кошачку: мяў-мяў! —
прывітаў ён першы,
кацяняткі ж па чарзе
гаварылі вершы.
Баль быў надта пышны:
усім было па мышцы,
сыру па кусочку,
сала па скрылёчку,
малачко пілі і квас,
пасля памаленьку
танцавалі модны вальс,
урэшце польку-еньку,
аж Мурачцы коцік
наступіў на хвосцік.
Коцік, коцік, уважай,
больш на хвост
не наступай,
лепш падбрыкні ножкай,
закружыся трошка:
гопса-гайса, дзыгу-брыку,
каб быў танец пад музыку!

**Ларыса ГЕНІЮШ**

## Польска-беларуская крыжаванка № 33-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 29:**

Ас, мамка, лек, Оля, планета, пшаніца, сок, як, дарога. Лепш, клас, анод, Моніка, палец, мята, сад, ява.

Узнагароды, кніжку «Dziuplaki» (дзіцячая кніжка пра птушак, якія гнездзяцца ў дупле на тэрыторыі Сувальскага ландшафтнага парку), выйграла **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Agat | Dziwak | | | | | Park | | | Artysta |
| | | Jod | As | | Piołun | | Znak | | |
| Miss | | Wieś | Pozer | Los | | | | | |
| | | | Lornetka / Sad | | | | | | |
| Tęcza | | | | | | | | | |
| | | | | | | Kęs | | | |
| Włosy | | | | Bierz | | | | | |

№ 33 [16-08-2015]

Размова з археолагам Кацярынай БЯЛЯЎСКАЙ

# Ці археалогія загляне з будучыні?



**— З чаго ў Вас узялося зацікаўленне археалогіяй?**

— З дзяцінства. У нашым доме было многа кніг і людзі да нас заходзілі як у бібліятэку. Усе мае сямейнікі многа чыталі, бо кніга ў той час была асноўным акном на свет. Я сама чытала шмат гістарычных кніг, у тым ліку і пра старажытнасць. Да таго ж я з дзяцінства збірала акамянеласці, у жвіроўнях; можна было там знайсці аманіты ці белемніты. Мы, дзеці, нават прабавалі сканструяваць тэлескоп! У кнігах пісалася пра курганы, у тым ліку і ў Белавежскай пушчы. І так пайшло.

**— А далей пайшло зацікаўленне і археалогіяй Беларусі?**

— Калі мой прамотар, прафесар Анджэй Буко з Варшаўскага ўніверсітэта даведаўся адкуль я і хто я, калі ўсведаміўся, што Нараўка недалёка граніцы з Беларуссю, зразу спытаў, ці я ведаю беларускую мову і ці ўмею на ёй размаўляць, я адразу адказала станоўча. Пасля было ўжо не так гладка, калі я сутыкнулася са спецыялістычнай літаратурай на беларускай і рускай мовах, трэба было з многімі новымі рэчамі знаёміцца — давялося закласці ўласны спецыялістычны трохмоўны беларуска-руска-польскі археалагічны слоўнік. А тады прафесар адразу запрапанаваў мне пісанне магістарскай працы на тэму археалогіі Беларусі. Яго цікавілі самыя новыя напрамкі прац беларускіх археолагаў. Мяркую, што тады ў Польшчы мала хто грунтоўна ведаў пра стан навейшых археалагічных даследаванняў у Беларусі. Мне трэба было наладзіць кантакт з беларускімі даследчыкамі. Мне ўдалося такія карэспандэнцыйныя кантакты завязаць з Генадзем Семянчуком з Гродна і Эдуардам Зайкоўскім з Мінска. Яны, незалежна ад сябе, наштрыхавалі пяць асноўных напрамкаў. Гэта, у першую чаргу, гарадзішчы і ўся звязаная з імі праблематыка: планіграфія, унутраная структура, матэрыяльная і духовая культура. Далей — пачаткі мураванай архітэктуры перыяду XI-XIII стагоддзяў — гэта і будаўнічая тэхніка, і архітэктурныя плыні, напрыклад вельмі цікавая гродзенская архітэктурная школа з прыкладнай царквой на Каложы. Трэцім напрамкам з'яўляюцца раннесярэднявечныя пасяленчыя супольнасці ў Беларусі; тут даследуецца пасяленчая праблематыка ў спектры пісьмовых і археалагічных крыніц — гэтая тэма выклікала і надалей выклікае ў Беларусі шмат хваляванняў: тут справа маецца з этнагенезам саміх беларусаў, з паходжаннем беларускіх плямён. Чацвёртай вядучай тэмай беларускіх археалагічных даследаванняў з'яўляюцца балта-беларускія кантакты; гэтая тэма таксама выклікае буйныя хваляванні. Пятым напрамкам з'яўляюцца формы пахаванняў: курганныя, бескурганныя з V-IX стагоддзяў на фоне этнічна-культурнай праблематыкі. Гэтыя напрамкі вызначылі структуру маёй працы, становячыся папросту яе раздзеламі. Этнічная праблематыка прасвятляецца ў маёй працы з інспірацыі прафесара Буко. Ён намовіў мяне паглыбіцца ў гэтым напрамку так, каб праца стала своеасаблівым трамплінам для далейшых разважанняў — каб спрабаваць знайсці ў Беларусі такіх вучоных, якія маюць дыверсіфікаваныя погляды. І мне ўдалося дайсці да адпаведных матэрыялаў. У Беларусі не ўсе аднолькавай думкі і іхнія меркаванні вельмі цікавыя.

**— Вось цікава было б прыглянуцца поглядам пра этнагенез беларусаў, якія ў беларускіх вучоных на гэты конт меркаванні...**

— Гэтыя пытанні спараджаюць вялікія эмоцыі. Частка даследчыкаў хоча бачыць гэты этнагенез чыста славянскім. Аднак штораз часцей чуваць выказванні такіх даследчыкаў, як Георгій Штыхаў, Валянцін Сядоў, што нельга праходзіць міма шматкультурніцкага вываду беларускага этнасу, побач балцкага ўплыву.

**— Балты называюць беларусаў балтарусамі...**

— І правільна. Вось часта можна сутыкнуцца з пытаннем, дзе знаходзіцца сутнасная Расія. Гэта на поўначы, там дзе яе стваралі варагі — гэта нарманская тэорыя, згодна якой наплываюць варагі і ствараюць рускую дзяржаву, на Пскоўшчыне. Вельмі цікавае меркаванне расійскага даследчыка Глеба Лебедзева, які лічыць, што цывілізацыю ранняга сярэднявечча стварылі балцкія плямёны, свайго роду балбалтыйскую эканамічную зону. Паводле яго ўсходнеславянскія плямёны разам з угра-фінскімі, балцкімі і часткова заходнеславянскімі ў VIII-XI стагоддзях завязалі балтыйскую цывілізацыю ранняга сярэднявечча. Шматлікія даследчыкі падкрэсліваюць, што менавіта ў басейне Балтыкі існавала асобная цывілізацыя...

**— Нешта накшталт пазнейшай Ганзы...**

— І была гэта высокаразвітая цывілізацыя, куды пранікалі шматвектарныя ўплывы. Маем гэтаму доказы ў пастаці матэрыяльнай культуры, асабліва ж у форме могільнікаў, пахаванняў, доўгіх курганоў.

**— Чым характарызаваліся балцкія пахаванні?**

— У балцкіх магілах маем дзве адметныя прыметы пахавальнага інвентару: гандаль і зброю. Бываюць там часткова захаваныя вагі і зброя: вараг гандлюе і ваюе; гэтыя прадметы давалі нябожчыкам на пасмяротную дарогу.

**— Ці гэты інвентар суправаджаў пахаванні трупапальныя ці трупакладныя, бо ж яны, здаецца, сведчылі пра прысутнасць паганства і хрысціянства?**

— Тут няма акуратнай граніцы: паганства захоўвалася ў нас вельмі доўга, напрыклад у наваколлі Белавежскай пушчы да XIII стагоддзя. Крэмацыя адбывалася яшчэ доўга пасля прыняцця хрысціянства, пра што сведчаць археалагічныя раскопкі. А ў Літве яшчэ і пазней захоўваецца язычніцкая абраднасць, хаця так Царква, як і Касцёл вельмі іх крытыкавалі. Асабліва доўга яны захоўваліся на тэрыторыі, што на ўсход ад Віслы, у нас.

**— Першы раздзел Вашай працы быў прысвечаны ўмацаваным паселішчам; што пра іх можна сказаць?**

— Гэта вельмі цікавая тэма, бо на Беларусі паводле рускіх летапісаў згадваецца больш за трыццаць тагачасных гарадоў. У Беларусі прыдаецца вялікае значэнне даследаванню менавіта гарадоў, іх закладкі: Полацк, Віцебск, Лукомль — IX стагоддзе, Тураў, Навагрудак, Ваўкавыск, Берасце, Браслаў, Лагойск — X — пачатак XI стагоддзя, Мінск, Гародня, Друцк, Клецк, Копысь, Пінск, Слуцк, Рагачоў, Орша, Свіслач — XI стагоддзе. Барысаў, Гомель, Мазыр, Слонім, Стрэшын, Чачэрск — XI-XII стагоддзі. Апрацаваны шматлікія манаграфіі, м.інш. Гародні, Полацка, Мінска. У Беларусі даследуецца генез гэтых гарадоў — як яны ўзнікалі і дзеля чаго. І на гэты конт шмат тэорый, шмат гіпотэзаў. Аднак адно меркаванне не выклікае рознагалосся — гарады ў Беларусі ўзнікаюць уздоўж гандлёвых шляхоў. Звяртаецца таксама ўвагу на грамадскія функцыі гарадоў: ці ў горадзе быў гандаль, ці ёсць характэрны гарадам культурны слой.

**— Берасце распалажана ў зліцці Буга і Мухаўца, Гародня на Нёмане. А ці штосьць больш можна сказаць пра такія найбліжэйшыя нам гарады, як Ваўкавыск і Свіслач?**

— З Ваўкавыска маем рэлікты балцкага паходжання: прывескі скандынаўскага дызайну з другой паловы X стагоддзя. Маем граматы. На Палессі маем мясцовасць Франопаль, якой мала хто дагэтуль займаўся, там былі знойдзены скандынаўскія вырабы. Дарэчы, матэрыяльнай спадчыны захавалася нямнога, затое мовазнаўцы падкрэсліваюць, што тапанімія — назвы рэк і мясцовасцей — выводзіцца з балцкага моўнага арэалу.

**— Другі раздзел Вашай працы прысвечаны мураванаму дойлідству ў сярэднявечнай Беларусі; адкуль яно тут узялося, хто яго сюды прыцягнуў?**

— Гэта ўплыў Захаду, сутыкненне заходняй і ўсходняй цывілізацый ды з'яўленне хрысціянства, калі ўзводзіцца мураваныя храмы. Прыклад гэтага будаўніцтва — Каложская царква ў Гародні, дзе ўпершыню ва Усходняй Еўропе былі ўнутры храма прыменены г.зв. нагалоснікі, а вонкавыя фасады былі выкладзены эмаліраванымі камянямі і тэракотай у адмысловыя кшталты келіхаў ці крыжоў. Гэта арыгінальныя і вельмі цікавыя развязкі.

**— Значыць гродзенскую Каложу будавалі мастакі.**

— Так, фрэскаў па сутнасці не было. Будаўніком лічыцца Пётр Мілані, які пасля будаваў у Кіеве і Оўручы. Гарадзенская дойлідская школа ахоплівала Гародню, Ваўкавыск; дарэчы, у Беларусі было некалькі архітэктурных плыняў. Вось адметны Полацк, які я ў сваёй працы назвала Візантыяй Поўначы, бо там захавалася мноства архітэктурных помнікаў, шмат з іх у ніжэйшых пластах.

**— Параўнанне з Візантыяй узялося ў Вас з візантыйскіх узораў?**

— Я, галоўным чынам, мела на думцы будаўнічы размах. Гэта не толькі велічны Сафійскі сабор, але і іншыя храмы. Важная таксама духовая культура ў беларускіх гарадах, напрыклад пісьменства. Мала каму вядома, што ў Беларусі захаваліся пісаныя ўручную евангеллі: полацкае, тураўскае і аршанскае. Яны былі напісаны на царкоўнаславянскай мове, тураўскае ў XI стагоддзі, полацкае ў канцы XII, а аршанскае на зломе XII і XIII стагоддзяў. Ёсць і іншыя цікавыя помнікі пісьменнасці, напрыклад сярэдневяковыя прасліцы, на якіх пісалася прозвішча ўласніка. У Маскавічах на Браслаўшчыне знойдзена жывёльныя косткі з надпісамі і рысункамі з ранняга сярэднявечча. Захаваліся сярэднявечныя дзелавыя лісты, пісаныя на бярозавай кары: з Навагрудка, Віцебска, Мсціслава. Вось, напрыклад, з Віцебска захавалася камерцыйная карэспандэнцыя на бярозавай кары з XIII-XIV стагоддзяў.

**— Можа яшчэ слоў пару пра пахаванні. Вы згадвалі пра пахавальныя прадметы гандлёвага і збройнага значэння — гэта мужчынскія атрыбуты, мужчынскія пахаванні. А ці знойдзены жаночыя даўнія магілы?**

— На Палессі знаходзяць розныя пахаванні, і трупапальныя, і шкілетныя, і курганныя, і плоскія — увесь спектр тых пахаванняў. Аднак характэрным дрыгавічанкам пахавальным інвентаром былі малінкавыя завушніцы — грануліраваныя аздобы. У патойбаковы свет нябожчыцу адпраўлялі з аздобамі. Тут і кераміка — знаходзяцца і цэлыя збаны, і іх чарапкі. Гэта можна супаставіць і з летапісамі, якія апісваюць цэлы абрад, усю трызну. Аднак была вялікая разнароднасць пахаванняў.

**— А ці беларускія археолагі займаліся Белавежскай пушчай?**

— Займаліся, але больш цікавы матэрыял з польскага боку, дзе праводзіцца шмат нававатарскіх даследаванняў. Дарыюш Краснадэмбскі з Польскай акадэміі навук даследаваў летась стаянку, якую у міжваенныя гады даследаваў нямецкі археолаг Гецэ, адкрыўшы тады некалькі курганоў у 123 квартале ды стаянкі на Шчэкатове. Іаанна Ваўжэнюк з Універсітэта кардынала Вышынскага і Торуньскага ўніверсітэта даследавала, таксама ў мінулым годзе, курганы ў Лядскай пушчы, каля Барначчыны. Мяне найбольш здзівіла, дзеля чаго зноў даследуюцца курганы, якія ўжо дэталёва былі даследаваны раней. З польскага боку пушчы выяўлена сама менш паўтысячы курганоў. Знаходзяцца цяпер і месцы, якія дагэтуль не былі зафіксаваны ў археалагічнай дакументацыі, асабліва маю на ўвазе каменныя магілы. На жаль, многія з іх былі разабраны ў час Другой сусветнай вайны для дарожнага будаўніцтва; расказвалі мне старажылы, што з аднаго такога каменнага капца можна было прывезці фуру камянёў. Аднак вярнуся да тых узноўленых раскопак — іх мэтай з'яўляецца здабыццё ўзораў ДНК. Гэта вельмі цікавае даследаванне, якое мае падказаць, адкуль узялося дагістарычнае насельніцтва на нашай тэрыторыі. А гэта ўжо хвалюе цяперашніх мясцовых жыхароў, якія апасаюцца, каб тыя доследы не пацягнулі за сабою практычных мер.

**— Гэта нешта накшталт даследаванняў з галіны ядзернай фізікі, калі цікавасць да будовы атама прывяла да збудавання атамнай бомбы; цікавасць гэта ж першая прыступка ў пекла...**

— Высвятленне паходжання насельніцтва — хто мы і адкуль — з'яўляецца вельмі важным з навуковага пункту гледжання, але важна і тое, хто і як скарыстае гэтыя інфармацыі. А людзі хвалююцца, бо ж жывуць тут ад пакаленняў, яны лічаць сябе тутэйшымі, а тыя доследы могуць паказаць, што не вельмі яны тутэйшыя...

**— Дзякую за вельмі цікавую размову.**

**Пытаў і фатаграфаваў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**




Фрагмент дзелавой граматы з Мсціслава





■ Фрагмент выстаўкі.
■ Хрысціна Бэрндт (у акулярах), Цэліна Бах-Шчавінская, Люцына Юркевіч

# Філасофія гумна

Зарослы травой брук, апусцелыя стагадовыя хаты. Усе на продаж. Нашчадкі памерлых гаспадароў паўцякалі ў Беласток. Канчаткова і назаўсёды. Для іх гэта праклятая вёска, сімвал бяды і цемнаты.

Ні адной жанчыны, ні адной вясковай лавачкі. Пасярод счарнелых астанкаў бачу белы сайдынг з уручную напісанай шыльдай „Экалагічны мёд". Цвярозы гаспадар-прадпрымальнік ахвотна паказвае мне дарогу ў гумно — месца сённяшняга вясковага вернісажу. Сам туды не збіраецца. Не мае часу.

Уражае незвычайная, як на здзічэлую вёску, колькасць прыпаркаваных аўтамабіляў. Знаёмыя і незнаёмыя твары, сярод іх адзіны прадстаўнік пастаянных жыхароў Азяран-Малых — алкаголік. Відавочна вынюхаў настойкі, падрыхтаваныя наведвальнікам вернісажу. Стаіць пад гумном побач са старым гарманістам, нетутэйшым, але гаворачым па-нашаму.

— А ты скуль тут узялася? — цікавіцца мужчына, якому гадоў пяцьдзясят. — З „Нівы"? — здзіўляецца. — А хто ў вас там дырэктарам, Вапа? Мы ж разам БАС закладалі, я іх там усіх добра ведаю. Ад Зелянкевіча прывітанне яму перадай.

Стадола — бацькаўшчына Зелянкевіча. Прыязджае сюды з Беластока, толькі на выхадныя. Ведае яшчэ родную мову, нават дзяцей у беларускую школу пасылаў. З вясковага дзяцінства найбольш запамятаў пачаткі адукацыйнай кар'еры ў школе ў Крушынянах. Трэба было па-польску гаварыць, а ён не ўмеў.

— Ну, а як там Вапа жыве? — зноў вяртаецца да свайго пытання.

— Я ведаю вашу газету, нават у рэдакцыі была, — гаворыць Хрысціна Бэрндт, аўтарка фотавыстаўкі ў гумне Зелянкевіча. Карэнная быдгашчанка з добрага, адукаванага дому. Філолаг, тэатразнаўца, кіназнаўца, журналістка, ад некалькіх гадоў закаханая ў падкрынскую рэчаіснасць. Цяпер працуе над фільмам пра аўтара эратычных кніжак, беларуса з Дубровы-Беластоцкай Мікалая Самойліка. У Быдгашчы займаецца культурнай спадчынай і нацыянальнымі меншасцямі.

— Гэта мая вёска, складзеная з маіх думак і ўспамінаў, — гаворыць пра сваю выстаўку Хрысціна, — вёска, якая паўстала з розных навакольных вёсак: Лапічаў, Белагорцаў, Вершаліна.

Здымала іх на працягу сямі гадоў. Пачала 15 гадоў таму. Кадры вясковага свіназабою з подпісам „Смерць", крытыя страхой хаты, жывая вёска — усё гэта засталося толькі на яе поўных тэатральнай драматургіі здымках. Выстаўка разам з аўтаркай вандруе па ўсёй Польшчы. Глядзелі яе, між іншым, у музеях Драздова, Торуні і Быдгашчы. У гумно трапляе ўпершыню.

— Ён сапраўды незвычайны, — акунаецца ў задуму Хрысціна.

— Хто? — пытаю.

— Лешак, Лешак Скрудскі — мазаўшанін. Я тут па яго просьбе. З торбай ласункаў да мяне прыехаў. Вырашыў, што выстаўку абавязкова трэба паказаць менавіта ў яго любімых Азяранах. Штодзень жыве ў Беластоку, з жонкай і дзяцьмі. Тут толькі шалее з усялякага сорту земляробчымі эксперыментамі. Юрыст, Езус Марыя, незвычайны тып. Яго жонка выходзіць з гэтай хаты з сайдынгам. Ёй сайдынг падабаецца. Рэдка сюды прыязджае, саромеецца свайго. Лешак сабраў ужо крыху старой мэблі, цяпер адкладае на пакупку ўласнай, старой азяранскай хаты. Шукае слухачоў, таму тэлефануе мне, расказвае пра свае знаходкі, мясцовыя гісторыі, даваенныя здымкі. Ён з гэтымі ўсімі гаспадарамі. Яны тут усе — алкаголікі, на амін. Здымкі я падпісала „Малыя Азяраны на векі вякоў амін". У гэтай вёсцы, мабыць, найгорш. Засталіся толькі алкаголікі і сабакі. Сук пазабівалі, каб не размнажаліся, дзяўчаты паехалі ў горад. На выстаўку прыйшоў толькі адзін азяранец-алкаголік, нікога больш. Справа не ў тым, што не хочуць. Яны проста не ў змозе фізічна і псіхічна. Я пра гэта не гавару ў Быдгашчы. Яны не зразумеюць. Вандроўка гэта не агляд, але зразуменне свету. Амаль дзесяць гадоў вандровак па сапраўдным пекле. Цяпер селяцца тут чужыя, уводзяць свае правы, пасылаюць сваіх дзяцей у школу. Такой будзе тутэйшая рэчаіснасць.

— Ці варта прыязджаць з мастацтвам у такую глуш? — пытаецца сабраных Хрысціна.

— Калі сабраліся, значыць, варта, — адказвае Цэліна Бах-Шчавінская з Крынак.

— Цяпер у вёсцы нашмат цікавей, чым у горадзе, — гаворыць госць з Гарадка. — Горад гэта бетон, нялюдскія людзі, адзінота, а тут прынамсі жывёлу можна спаткаць, зуброў, ласёў, аленяў, буслоў, усё тут ёсць.

— Хто губляе пашану для ўласнай культуры і тоеснасці, губляе сваю тоеснасць, — адказвае пажылы турыст з-пад далёкага Штума. — Гэтыя здымкі затрымалі час. Усё гэта ў рэальнасці ўжо не існуе.

Вернісаж адкрыла Люцына Юркевіч — заснавальніца новага крынскага аб'яднання „Pro bono", па-беларуску, фрагментам „Лістоўя" Сакрата Яновіча. Яна таксама выйшла з ініцыятывай спалучыць выстаўку з дэманстрацыяй фільма Хрысціны „Вёска з памяці і са слыху" — дакумента пра падкрынскія Клябанаўцы (Plebanowo).

— Я асабіста абводзіла Хрысціну па гэтых вёсках, — кажа Люцына. — Яна — чалавек звонку, асабліва захапілася лапіцкай, клябанаўскай і азяранскай метафізікай. Але гэта было пятнаццаць гадоў таму.

Прапалі вёскі, прапала метафізіка.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# ЧАРГОВЫ КУЛІНАРНЫ ПОСПЕХ ДУБРАВЯНАК

**У апошніх гадах запатрабаванне на свойскія прадукты стала свайго роду модай. У крамах прапаноўваюць нам кумпякі, „бабуліну шынку" ці гаспадарскі хлеб. Тое, што калісьці было неабходнае ў дамашнім меню, сёння з'яўляецца эксклюзіўным прадуктам на продаж.**

Свойскае масла з ваколіц Дубровы-Беластоцкай трапіла ў Спісак традыцыйных прадуктаў Міністэрства сельскай гаспадаркі Польшчы. Гэта пасля свойскіх сыру-клінка і хлеба на заквасцы, трэці выраб, якога вытворчасцю займаецца Дуброўскае таварыства мясцовага прадукту.

— Мы вельмі доўга чакалі гэтага рашэння, — кажа Галіна Радуха, старшыня арганізацыі. — Разлічваем на тое, што занясенне ў спісак нашага масла будзе свайго роду рэкламай. Так як і ў выпадку сыру-клінка, пра які даведалася ўся Польшча, так і зараз знойдуцца фанаты свойскага масла.

Смак свойскага масла ў ваколіцах Дубровы-Беластоцкай зведаў амаль кожны мясцовы жыхар. Аднак сёння толькі некаторыя маюць час і прылады, каб гэты ласунак зрабіць самастойна.

— Гэта вельмі цяжкая работа, — дадае Галіна Радуха. — Найлепш, каб масла збіваў цярплівы мужчына. Не заўсёды



смятанка ўзаб'ецца ў 15 хвілін, часам спатрэбіцца нават паўгадзіны, а то і даўжэй.

Рэцэпт на свойскае масла гаспадыні з Дуброўскага таварыства мясцовага прадукту ведаюць з дзяцінства. Такое масла можна было калісьці купіць у Дуброве, аб чым сведчыць згадка ў „Статыстычным штогодніку Дуброва-Беластоцкая 1972 года". Кілаграм масла каштаваў тады 45,69 зл.

— Калі я была малая, бачыла як маці ці бабуля збівалі такое масла. Я не думала, што гэта нейкі эксклюзіўны прадукт. Аднак, калі я пачала ездзіць на рознага тыпу кірмашы, зразумела, што людзі шукаюць такіх традыцыйных смакаў, якія памятаюць яшчэ з роднай хаты, — дадае Галіна Радуха.

„Гміна Дуброва-Беластоцкая, расположаная ў Падляшскім ваяводстве, гэта тыповы сельскагаспадарчы рэгіён. Невялікія фермы, раскіданыя сярод палёў і лясоў, у асноўным арыентаваны на дробную вытворчасць ды малочную жывёлагадоўлю. Вельмі добрыя кліматычныя ўмовы, чыстае паветра і адсутнасць цяжкай прамысловасці спрыяюць павышэнню якасці сваёй прадукцыі", — чытаем у прапанове да Міністэрства сельскай гаспадаркі.

Як падкрэсліваюць гаспадыні з Дуброўскага таварыства мясцовага прадукту, масла, якое вырабляюць зараз, нічым не адрозніваецца ад таго „даўнейшага".

— Малако, абавязкова ад сваіх кароў, выліваем у бляшаную банку і ўстаўляем у халодную ваду. Тады тое малако пакідаем, каб сабралася смятанка, якая пазней укісае. Гэтую смятанку выліваем у драўляную маслабойку і збіваем таўкачом.

Са свойскімі вырабамі сябры Дуброўскага таварыства мясцовага прадукту наведваюць амаль кожны фэст і кірмаш у рэгіёне. Бліжэйшым часам такі фэст будзе зладжаны 15 жніўня ў Дуброве-Беластоцкай. Тады кожны будзе мець магчымасць паспрабаваць вырабы жанчын з-пад Дубровы, якія берагуць традыцыйныя смакі свайго рэгіёна.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# ДНІ КРЫНАК



„Piękny i boski Zbyszek Perkowski zaprasza” — чытаю на афішы „Дзён Крынак — вечара чатырох культур”. Мясцовыя жыхары цэлы год з нецярпеннем чакаюць гэтага мерапрыемства. Сапраўдная падзея спалучаная з днём святой Анны — патронкі крынскага касцёла. А яшчэ і выхадныя. Хто не паспеў у тыдні, ідзе з віншаваннямі да Кшыштофаў. А калі Кшыштофа ў хаце няма, бо выехаў на працу за мяжу, ідуць да яго жонкі. Горад гудзе. У госці з'язджаюцца знаёмыя, даўно не бачаныя сваякі, аўтамабілі на панадворках. З хат выходзяць усе, альбо амаль усе. Тыя, якія не рашаюцца ісці пад сцэну, і так прыгаворы слухаць прэзентаваны там рэпертуар. Гэта вынік выдатнай, натуральнай акустыкі — размяшчэння мясцовасці ў вялікай даліне. Два дні спеваў, танцаў і абавязковага п'янства. У белы дзень дзве вучаніцы мясцовай гімназіі пад крамай з ненатуральнай весялосцю вітаюцца са мной. Хто прадаў ім гэтае піва? На тратуары закаханая пара з півам у руках і папяросамі ў зубах запыняе мясцовага настаўніка, каб напомніць пра дадзенае ім слова выпіць супольную чарку. Пад канцэртнай пляцоўкай падхмеленая маладая жонка дае па мордзе падхмеленаму маладому мужыку на вачах гуляючых на гушкалках малых дзяцей. Але вось сярэдзінай дарогі, паміж парасонамі з півам, з каралеўскай годнасцю праходжваецца іншае сужонства — цвярозае і закаханае, нягледзячы на даволі працяглае, сумеснае жыццё. Нават вопратка ў іх аднолькавая — у чорна-белую палоску. Сямейным няўдачнікам ёсць у іх чаго пазайздросціць.

Пад сцэнай мітусня. Як заўсёды надзвычай прыгожая спадарыня бургамістр асабіста падае руку чакаючым свайго выступлення крынскім артыстам-аматарам. Як грыбы пасля дажджу вырастаюць, таксама не менш элегантныя, іншыя прадстаўнікі гмінных улады. Канцэрт пачынаецца. Пакуль на сцэне спявае заслужаны польскі хор крынскіх пенсіянераў „Пагодна есень”. Да выступу рыхтуецца менш заслужаная беларуская „Заранка”.

— Спадарыня Ася, — звяртаецца да мяне са страхам у вачах маладая салістка калектыву, — я не заспяваю гэтай „Крынічанькі”. Будуць з мяне смяяцца і вецер сёння такі, што спадніцу падымае. Не выйду на сцэну.

— А ці пасля карагоду сыходзім са сцэны і ўваходзім яшчэ раз, ці застаемся? — пытаецца мяне другая.

— А блузкі лепш у спадніцу, ці на спадніцу? — клапоціцца іншая.

Дзякаваць Богу, усё атрымалася і беларускія спевы, і старыя карагоды.

— Можна майго сына да вас? — просіць мяне пасля выступлення маці ўдалага хлопчыка — разынкі ў дзявочай заранчанай грамадцы з дзесяці асоб.

Затым мікрафоны пераймаюць стройныя жанчыны з „Экзіта”. У іх выкананні польскія шлягеры маладосці, а таксама песні з выдадзенага імі дыска, прысвечанага мясцоваму фальклору.

— Гэтыя міжваенныя песні, здаецца, ты пачала збіраць, — звяртаецца да мяне крынскі настаўнік, лідар адной з мясцовых няўрадавых арганізацый. — Тады чаму са сцэны заяўляюць, што ўсё гэта яны...

— Нічога страшнага, асноўнае, каб спявалі, — адказваю.

Жывую музыку без ніякіх музычных падкладак папулярызуюць крынскія сур'ёзныя мужчыны з „Лотасаў”. Надта хвалююцца, баяцца, каб не памыліцца. Пасля канцэрта першага дня мерапрыемства чакае іх яшчэ цэлая наступная ноч — ноч святочнай забавы. Ці змогуць, ці хопіць сіл на восені жыцця?

Дырэктар мясцовага дома культуры Альжбеце Чарэмха можна павіншаваць падборкі музычнага рэпертуару. Сапраўдная разнастайнасць на ўсякі густ. Быў поп-рок у добрым выкананні міхалоўскага „Брук-энд-Рыджа” братоў Азяблаў, песні беларускіх штэтлаў у выкананні прафесіяналаў з Мінска і Ліды, варшаўскае „Апошняе такое трыо”, а нават калектыў славянскай музыкі „Гай” Марыюша Харужага.

Ахвотныя ўдзельнічалі ў святочных, праваслаўных і каталіцкіх набажэнствах з удзелам мясцовага самаўрада, а таксама ў безлічы спартыўных і вудзільных турніраў.

А на развітанне — „Чупакабра фаер шоў”, фокусы Збышка Пэркоўскага — „Фокус шоў” і „Гэй забава, забава аж да рання, гэй забава забава цэлу ноч...”.

**Іаанна ЧАБАН,** Здымкі: Архіў ГОК Крынкі.




Моўная сітуацыя ў Беларусі характарызуецца абыякавасцю большасці дзяржаўных структур на беларускай мовы. На сайтах міністэрстваў, ведамстваў альбо рэгіянальных органаў улады вельмі рэдка можна знайсці беларускія версіі. Пры гэтым яны нават спрабуюць тлумачыць такую непавагу да беларускай мовы нейкімі тэхнічнымі момантамі. Паказальны ў гэтым дачыненні Слонімскі раённы выканаўчы камітэт, які на пытанне мясцовага жыхара пра адсутнасць беларускай мовы пры наяўнасці рускай і англійскай на сайце мясцовых улад http://slonim.gov.by атрымаў бязглузды дзікунскі адказ. „На дадзены час тэхнічныя магчымасці сайта райвыканкама не дазваляюць падтрымліваць адначасова тры мовы. Як Вы заўважылі ў сваім звароце, руская мова таксама з'яўляецца дзяржаўнай і, улічваючы найбольш частае яе выкарыстанне жыхарамі нашага раёна для камунікацыі, на сайце выкарыстоўваецца менавіта яна. Выкарыстанне ж англійскай мовы абгрунтоўваецца тым, што яна ўважаецца міжнароднай і забяспечвае найбольш шырокі доступ да апублікаванай на старонках сайта інфармацыі для замежных наведвальнікаў, што спрыяе пашырэнню міжнародных стасункаў і турызму», — цытуе адказ старшыні райвыканкама Алега Таргонскага http://charter97.org. Мясцовыя чыноўнікі ў сваім нахабстве і дурасці нават не спасаліся на нейкія фінансавыя складанасці і, па сутнасці, папросту сказалі — мы не ведаем, як усталяваць на сайце беларускую версію.

Праўда, пра ўсе беларускія ўладныя сайты такога негатыву адзначыць нельга. Прыемным прыкладам тут з'яўляецца сайт Міністэрства эканомікі, які месціцца па адрасе http://economy.gov.by. Там хоць руская мова з'яўляецца першай, якую карыстальнік сустракае па адкрыцці „эканамічнай” вэб-старонкі, але беларуская мова таксама прысутнічае і нават даволі часта абнаўляецца.

Па сайце не бачна, калі на ім з'явілася беларуская версія, хоць, канешне, наўрад ці ў той жа час што і руская з англійскай. Аднак практычна пра ўсё, што выкладзена на гэтых дзвюх мовах можна прачытаць па-беларуску. Гэта надае як сайту, так і яго ўладальнікам больш павагі, чаго не скажаш, напрыклад, пра слонімскіх чыноўнікаў-беларусафобаў.

Сайт беларускага Міністэрства эканомікі зроблены з большага для эканамістаў, таму сярэднестатыстычнаму карыстальніку інтэрнэта не будзе цікавай большасць пададзенай там інфармацыі. Разам з тым варта зазірнуць на старонку „Аб Міністэрстве”, дзе ў падрубрыцы „Старонкі гісторыі” распавядаецца пра з'яўленне гэтай установы. Адтуль мы даведаемся, што Міністэрства эканомікі за савецкім часам мела назву Дзяржаўнай планавай камісіяй (Дзяржплан), Дзяржаўнага планавага камітэта па эканоміцы і планаванню (Дзяржэканамплан). Цяперашнюю назву ўстанова займела толькі 14 сакавіка 1994 года.

Праўда, паколькі сайт Мінэканомікі ёсць уладным, без палітыкі там не абышлося. Так, паляпшэнне эканамічных паказчыкаў з 1996 года наўпрост звязваецца з імем цяперашняга нязменнага беларускага прэзідэнта, а нейкія складаныя моманты — з сусветным крызісам 2008 года. На 2009 годзе аналіз эканамічнай сітуацыі на данай старонцы скончваецца. Таму адказу на пытанне, чаму цяпер беларускія прадпрыемствы ў заняпадзе, а эканамічная сітуацыя ўсё больш пагаршаецца, мы там не знойдзем.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Адзін з пачынальнікаў беларускай гістарыяграфіі

# 235 гадоў з дня нараджэння Ігната Анацэвіча



Вядомы гісторык, археограф і архівіст Ігнат Анацэвіч нарадзіўся 15 (паводле іншых звестак 25) жніўня ў мястэчку Малая Бераставіца. Паходзіў з сям'і ўніяцкага святара Малабераставіцкай царквы Сымона Анацэвіча. Вядома, што меў двух братоў — Міхала і Антона.

Навуковая дзейнасць Анацэвіча адметная тым, што лягла ў аснову нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі. Паводле слоў гісторыка Алега Латышонка, Ігнат Анацэвіч — адзін з тых „гістарычна адукаваных спакойных паповічаў”, якія, уласна, і стварылі беларускую нацыянальную ідэю на сумежжы XVIII і XIX стагоддзяў. Асноўным прадметам навуковых даследзінаў гэтага гісторыка была гісторыя Літвы, якой ён называў Вялікае Княства Літоўскае ўвогуле.

Вучыўся Ігнат Анацэвіч у школах у Ваўкавыску і Гродне ды ў гімназіі ў Беластоку. Займаўся гувернёрствам. Скончыў настаўніцкі інстытут у Прусіі, пасля Кёнігсбергскі ўніверсітэт, у якім застаўся выкладаць рускую і польскую мовы. Пазней, у час напалеонаўскіх войнаў, пазнаёміўся з вядомым мецэнатам графам Мікалаем Румянцавым, які запрасіў маладога вучонага ў Гомель у свой маёнтак, дзе меліся багатая бібліятэка і архіў. Год, праведзены ў Гомелі, Анацэвіч прысвяціў дэталёваму вывучэнню гісторыі Расіі і ВКЛ, рабіў выпіскі, даследаваў помнікі і граматы.

У 1809 г. Анацэвіч паступіў у Віленскі ўніверсітэт, дзе атрымаў званне магістра навук і стаў чытаць там лекцыі па ўсеагульнай гісторыі. Наступ французскіх войскаў Напалеона змусіў гісторыка пакінуць Вільню. Перабраўшыся ў Беласток, ён выкладаў там у мясцовай гімназіі. У 1818 г. быў выбраны ад'юнктам кафедры гісторыі і статыстыкі Віленскага ўніверсітэта, а з 1821 г., калі кафедру заняў Яўхім Лялевель, застаўся прафесарам кафедры рускай статыстыкі і дыпламатыі. Пазней за вальнадумства адхілены ад выкладчыцкай дзейнасці і высланы ў адну з вёсак Ваўкавыскага павета. Дзякуючы заступніцтву Румянцава, быў рэабілітаваны, аднак у Віленскі ўніверсітэт не вярнуўся. Пасяліўся ў Пецярбургу і цалкам прысвяціў сябе навуцы. Працаваў памочнікам бібліятэкара Румянцаўскага музея і быў сябрам археаграфічнай камісіі. Шмат працаваў у архівах, рабіў экспедыцыйныя паездкі па Беларусі і Літве. Стварыў цэласную арыгінальную навуковую карціну гісторыі ВКЛ ад старажытнасці да канца XVI стагоддзя. Некаторыя элементы гэтай канцэпцыі ляжаць у аснове пазнейшых беларускай і літоўскай гістарыяграфій. Распрацаваў класіфікацыю крыніц па гісторыі ВКЛ ад старажытнасці да 1569 г., вылучыўшы розныя групы. Важнымі лічыў таксама „нямыя помнікі”, да якіх адносіў руіны замкаў, пахаванні, рэшткі адзення і зброі, урочышчы, народныя песні. Даў характарыстыку гэтым групам крыніц. Увёў у навуковае абарачэнне вялікую колькасць фактычнага матэрыялу, які стаў хрэстаматыйным.

Памёр Ігнат Анацэвіч 18 лютага 1845 г. у Санкт-Пецярбургу. Пахаваны на Смаленскіх могілках у Санкт-Пецярбургу. Галоўная праца, якой Анацэвіч займаўся ўсё сваё жыццё, — „Гісторыя Літвы” — засталася ненадрукаванай. Велізарная калекцыя рукапісаў і рэдкіх кніг пасля смерці Анацэвіча дасталася калекцыянеру Канстанціну Свідзінскаму.

Найбольш грунтоўная праца пра навукоўца — „Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына” — пабачыла свет у Гродне ў 2005 г. Яе аўтары — Сяргей Габрусевіч і Святлана Марозава.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У вёсцы Чаромсе на Ілію

Для жыхароў вёскі Чаромхі 2 жніўня аказалася асаблівым святам. Зранку ўдзельнічалі яны ў парафіяльным фэсце з нагоды ўшанавання памяці св. пpapoкa Іліі, а ў паабедзенны час гулялі на беларускім фэсце з цыкла „І тут жывуць людзі". Арганізатарам другога мерапрыемства быў Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, суарганізатарамі — Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа ў Чаромсе.

Імпрэза пачалася ў 17 гадзін. Перад вясковай святліцай сабралася процьма народу. У афіцыйнай частцы выступілі дырэктар музея Тамаш Ціханюк і дырэктар Гміннага цэнтра культуры Барбара Кузуб-Самасюк. Дырэктар музея спаслаўся на традыцыю арганізавання фэстаў з цыкла „І тут жывуць людзі" (сёлета гэта сёмы выпуск; у Чаромсе такі фэст арганізаваўся пяць гадоў таму), а дырэктар ГАК прывітала гасцей. Затым вядучыя мерапрыемства Марыёля Герман і Паўліна Паўлючук-Коська на сцэну запрасілі гасцей з Высокага (Рэспубліка Беларусь): дзіцяча-маладзёжны танцавальны калектыў „Катрынка" ды гурты „Белавежская цявінка" і „Спадчына". Рэпертуар гуртоў у асноўным складалі фальклорныя творы з Камянеччыны, як і з народнай скарбніцы. Танцавальная група прывітала карагоднай песняй „Добры дэнь вам госці", затым былі іншыя: „Цячэ вада ў ярок", „Мае чорныя вочы", „Цячэ вада каламутна". Песні „Каліна-ягада" (сола) і „Не хадзі па ягады" (у дуэце) выконваліся ўперамешку з полькамі і факстротамі з-пад Высокага. Своеасаблівасцю аказаўся гумарыстычны маналог „Як Гаўрыла ў сваты хадзіў". Выступ доўжыўся амаль гадзіну. Беларускія госці развіталіся „Белай касыначкай". Публіка бурнымі апладысментамі абдароўвала кожны нумар праграмы, авацыйна ўспрыняла маналог „Як Гаўрыла ў сваты хадзіў".

Канцэрт працягваўся, публікі прыбывала. Чаргова выступілі „Калінка" з Беластока, жанчыны з вёскі Чаромхі, „Арт-Пронар" з Нарвы ды вакальна-музычная група „Мэтро" з Гайнаўкі.

У перапынку перад выступам „Калінкі" вядучая Паўліна Паўлючук-Коська расказала аб рэгіёне Белавежскай пушчы. Нагадала аб пабудове музея:

— У 2013 годзе музей святкаваў 30-годдзе існавання. З гэтай нагоды выйшла кніжка, прысвечаная Музею і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Рэкамендую падацца ў ларок з беларускімі выданнямі і купіць яе. Тых, хто не мае грошай, заахвочваю наведаць наш музей у Гайнаўцы. Калісьці на грамадскіх пачатках будавалі музей. Зараз музей у падзяцы абдароўвае нас фэстамі.





На сцэну заходзіць „Калінка". Пяць маладзенькіх прыгажунь у народных уборах прывіталі публіку „Лявоніхай". Затым прагучала песня пра трактарыста, ды чарговыя: „На вуліцы мокра", „Ой доля мая, доля" ды іншыя. Выступ быў успрыняты гарачымі апладысментамі. Пасля аб'яўлення апошняга нумара пачулася гучнае „біс". Калектыў на развітанне выканаў песню „Зямля мая родная".

У далейшым ходзе канцэрта выступілі мясцовыя пявунні з трыма песнямі: „Ручнікі", „На што, на што я тэбэ полюбіла і „Там у лісі пры дорозі".

Пад гукі вакальна-музычнага гурта „Арт-Пронар" закружыліся ў танцы пары. Гулялі дарослыя і малечы. А песні пераменьваліся быццам у калейдаскопе: „Беларусь — наш край", „Толькі з табою", „Горка", „Мая гітара", „Вёсачка", „Маміна сарочка", „Белыя розы" і супольна з публікай — „І мы ў Чаромсе заспяваем яшчэ раз". Затым ад калектыву для публікі была „Шарманка" і развітальная „Чарка на пасашок". Публіку весялілі вядучая, прыгажуня Марыёля Герман, кіраўнік калектыву Янка Снарскі і жартаўнік Мацей Сніткоўскі.

Фэст закончыўся выступам гурта „Мэтро". І тут, як і раней, у рэпертуары царыла народная музыка і песня. „Ой мама, мама", „Чырвоная каліна", „Ой ты, Галю", „Вяне рута". Я пакідаў пляцоўку ў вёсцы Чаромсе перад восьмай на адвячорку. Затым, як прадвяшчалі вядучыя, прадбачвалася забава. Танцы арганізаваў вясковы радны Пятро Кердалевіч з кампаньёнамі. А як забава, дык да рання. Музыка сціхла далёка за поўнач. Варта было пабыць на Ілію ў Чаромсе.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспіску, складуць рашэнне — беларускую прыказку.

1. адчуванне фізічнай або маральнай пакуты = 39 _ 40 _ 46 _ 33 _;
2. вялікае лісцевае дрэва ў... цыбуку = 3 _ 4 _ 13 _;
3. офіс = 15 _ 47 _ 36 _ 35 _;
4. гудзенне = 34 _ 30 _ 12 _;
5. светлая пара сутак = 5 _ 6 _ 2 _ 1 _ 7 _;
6. птушыныя „вусны" = 31 _ 32 _ 48 _ 29 _ 9 _;
7. нясе воды з Цянь-Шаня ў Балхаш = 14 _ 21 _ 22 _
8. „Кветка шчасця" Аляксея Туранкова = 16 _ 17 _ 18 _ 19 _ 20 _;
9. расліна сямейства перцавых = 41 _ 42 _ 43 _ 44 _ 49 _;
10. спічастая вяршыня гары = 45 _ 38 _ 37 _;
11. напрыклад NaCl = 8 _ 11 _ 10 _ 50 _;
12. рака ў Ужгарадзе, правы прыток Цісы = 24 _ 23 _;
13. спадарожнік у сонечны дзень = 25 _ 28 __ 27 _ 26 _.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | | | | | | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |
| 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**(ш)**

**Адказ на адгаданку з 30 нумара:** Донг, Варанасі, лявак, акіян, Будапешт, змена, мыла, карэйка, Бельцы, авадзень, домна.

Рашэнне: **Вялікага дуба з малым карэннем не бывае.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 16.08 — 22.08

**(22.03. — 20.04.)** Магчымыя псіхалагічныя зрывы! Напружанне, завал на працы, блытаніна ў любоўных адносінах, недастатковае разуменне з блізкімі. Перажыванні адаб'юцца на агульным стане арганізма, магчымыя галаўныя болі, спазмы страўніка і слабасць. Паспрабуй хоць бы на пару дзён з'ехаць ад усяго і ад усіх ды адпачыць душой і целам. Паступова ўсё ўляжацца само сабой.

**(21.04. — 21.05.)** Плённы час у прафесійным плане. Усё, чаго ты не мог скончыць або рэалізаваць доўгі час, з лёгкасцю завершыцца. Начальства ацэніць тваю працу па вартасці, атрымаеш доўгачаканую прэмію ці павышэнне. Але магчымыя ўсплёскі эмоцый у другой палоўкі або сяброўкі, здольныя ўскосна адбіцца на тваёй рэпутацыі.

**(22.05. — 22.06.)** Лёс прыгатаваў табе прыемны сюрпрыз! Дазволь свайму мозгу і целу расслабіцца і з задавальненнем прыняць падарунак зорак — магчымыя незабыўныя паездкі, вялікія выйгрышы грошай, любоўныя прыгоды або фантастычна выгадныя знаёмствы. Пра нішто не думай — усё складзецца лепшым чынам і без цябе, а здароўе будзе гарманаваць з тваім настроем.

**(23.06. — 23.07.)** Бойся нядобразычліўцаў! Усё будзе ісці падазрона гладка і ціха як на працоўнай ніве, так і на асабістым фронце. Але твае даўнія ворагі задумалі нешта небяспечнае. Будзь пільным і асцярожным, звяртай увагу на дробязі і чакай атакі — магчымыя як фінансавыя афёры табе на шкоду, так і прамы фізічны напад! Калі зразумееш хто вораг, не толькі пазбегнеш яго злога намеру, але і выдатна пакараеш крыўдзіцеля!

**(24.07. — 23.08.)** Ідэальная карціна! Многія мэты апынуцца дасягнутымі, а мары спраўдзяцца. Самы час пачаць новае жыццё, скарыстацца шанцам лёсу на глабальныя перамены да лепшага. Блізкія людзі і калегі стануць для цябе сапраўднай дапамогай і добрымі сябрамі. А каханы чалавек парадуе клопатам, увагай і ласкай. Але схадзі да лекара — хранічнае захворванне можа раптам даць аб сабе ведаць.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш заклапочаны грашовым пытаннем! Твае фінансы будуць спяваць рамансы — віной таму непрадбачаныя выдаткі, ад якіх ніяк нельга адмовіцца. Але акрамя добрай зарплаты магчымы нечаканы прыбытак з боку. І не забудзься, што алкаголь згубны ў вялікай колькасці — твая печань цяпер уразлівая!

**(24.09. — 23.10.)** Не вельмі ўдачна. Нават не прабуй адысці ад непрыемнасцей — цяпер гэта бескарысна. Кармічнае негатыўнае ўзаемаразмяшчэнне планет будзе адбівацца на ўсіх сферах жыцця — галоўнае, перажыць час без максімальных страт. На працы магчымыя падвохі ад калегаў, банкруцтва або буйны падман, які можа пазбавіць цябе ўсіх сродкаў да існавання. З боку здароўя высокая верагоднасць інсульту, узнікнення пухлін і траўмаў. А ў адносінах — расстанні, бойкі, істэрыкі будуць звычайнай з'явай. Набярыся цярпення і будзь вельмі пільным!

**(24.10. — 22.11.)** Ты ў стане творчага прасвятлення! Не бойся тварыць і прыдумляць ідэі — унікальныя шанцы раскрыць свае здольнасці ў поўную моц. Натхненнем для цябе могуць стаць цалкам паўсядзённыя рэчы. Уладзіш прафесійныя справы і з галавой акунешся ў сямейныя. Але рызыка падхапіць прастуду вельмі высокая.

**(23.11. — 22.12.)** Не змагайся з абставінамі! Падключы інтуіцыю, то гэты перыяд скончыцца няблага. Не ўпірайся рагамі ў сцяну, будзь гнуткім адпаведна акалічнасцям. Не злуйся — на наступным рэйсе не толькі не трапіш у аварыю, але і знойдзеш нічыйны кашалёк з грашыма!

**(23.12. — 20.01.)** Твой аўтарытэт будзе непахісны! Заслужаныя павага і востры розум дапамогуць табе вырашыць шматлікія праблемы як на працы, так і ў побыце. Будзеш настаўнікам і міратворцам. Карыстайся становішчам, і твае без таго нядрэнныя рэаліі жыцця стануць яшчэ лепшымі.

**(21.01. — 19.02.)** Здасца табе, што свет сышоў з розуму, што вакол адбываецца нешта не тое. Не панікуй, людзі проста схільныя касмічным павевам, а табе неабходна падумаць аб сваім фінансавым становішчы — магчымае вельмі выгаднае знаёмства, за кошт якога ты забяспечыш сябе высокім прыбыткам на доўгі час.

**(20.02. — 21.03.)** Лепш не вер нікому і спадзявайся на сябе! Становішча тваіх спраў ва ўсіх сферах будзе вельмі здавальняючым — без усплёскаў і падзенняў. Але сцеражыся незнаёмых персон і давярай блізкім людзям. Твае планы могуць быць парушаныя, а думкі вытлумачаны няслушна, што дрэнна паўплывае на тваю будучыню і дабрабыт. Больш часу праводзь у адзіноце, на прыродзе або проста на вуліцы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (9)

На прыпынку побач кінатэатра „Маяк” не было ў каго спытаць пра дарогу ў манастыр. Я пачакала пешахода, які лёгкім крокам набліжаўся ў мой бок.

— Пайшлі! — сказаў ён.

Мы павярнулі ў пясчаную вулачку і цягам дзесяці хвілін ішлі берагам возера. Мой гід праз усю дарогу не адазваўся словам. Спачатку я палічыла яго паслушнікам. Які нармальны маладзён стане суправаджаць па пыльных вулачках незнаёмую цётку? Хапіла б падказаць дарогу.

Хлапец быў падключаны да смартфона, праз навушнікі даходзіў шумок, падобны да шораху марскіх хваляў. Час ад часу ён азіраўся і лагодна заўсміхаўся. Абапал левай рукі цягнулася возера Свіцязь, у ранішнім сонцы яно напамінала агромністае люстра. Набярэжная вуліца раскошна драмала, мроячы пра спакусы турыстычнага сезона. Час ад часу на панадворку закукарэкаў певень.

За царкоўным парканам мой гід, не здымаючы навушнікаў з галавы, набожна перажагнаўся і паказаў рукой уваход у новы будынак манастыра, што стаяў сярод зааранай зямлі непадалёк ад царквы. Сам адвярнуўся на пяце і адышоў, каб зноў вярнуцца той самай дарогай да кінатэатра „Маяк”.

Я спытала ў хлапца пра імя.

— Яраслаў!

— А ты — мясцовы? — я патрабавала нейкі доказ на яго рэальнае існаванне.

— Да! — прагучаў ашчадны і заадно цвёрды адказ.

* * *

Свіцязская царква явілася найбольш дастойным будынкам, які да гэтай пары я пабачыла на ўкраінскім Палессі. Адкуль у азёрна-лясным кутку такая высмакаваная будоўля з чатырохкалоннымі тасканскімі портыкамі? І чаму, замест у цэнтры, яна стаяла на загароддзях, сярод неахайных буданоў і расхістаных пансіянатаў, якія нахабна калечылі прастору. Але хапіла пераступіць царкоўную браму, каб адчуць здаровую энергетыку і моц гістарычнай архітэктуры. Царква будавалася ў 1840-1846 гадах на кошт графа Уладзіслава Браніцкага, сына Ксаверыя Францыска. Граф нечакана памёр у 1843 годзе, таму пабудовай занялася ўдава Роза Патоцкая. Ці сямейная трагедыя паўплывала на кшталт і характар будоўлі? З перспектывы возера яна напаміне марскі маяк і прамаўляе арыстакратычнай меланхоліяй. Свіцязская Петра-Паўлаўская царква, адзіная ў наваколлі, ганарылася непарыўнасцю багаслужбаў. «Божай міласцю царква ніколі не закрывалася», — інфармаваў манастырскі буклет. Сюды прыносілі на перахаванне літургічнае начынне і кнігі, калі камуністы закрывалі або пераводзілі ў гаспадарчыя склады навакольныя цэрквы. Праўда, цягам дзевяці месяцаў, на зломе 1967/1968 гадоў, маліліся без святара. Свіцязяне дабіваліся да дзвярэй раённай і абласной адміністрацыі, ездзілі з прашэннем у Кіеў. Намаганні прынеслі плён. У парафію быў накіраваны бацюшка Сяргей Мельнічук.

27 верасня 2001 года ў Свіцязі адбыўся цуд. У Петра-Паўлаўскай царкве замiраточыла Ікона Пачаеўскай Божай Маці. З гэтай пары тут адбываюцца лячэбныя малебны з асвячэннем вады. Сярод паломнікаў, як не цікава, найбольш грамадзян Беларусі, з суседняй Брэстчыны. Тамтэйшыя палешукі цягнуць у Свіцязь падлячыцца ад немачы і хвароб, наклiканых чарамі. Спісак выпадкаў і аздараўленняў падаўся мне дзіўна знаёмым, падляшскім: *«Першую падвеску да іконы, — чытаем у манастырскім буклеце, — падараваў жыхар сяла N. Аднойчы жанчына, якая славілася наўкруг варажбіцтвам, папрасіла ў яго дапамогі ў гаспадарцы. Пасля работы запрасіла на пачастунак. Калі чалавек выпіў чарку гарэлкі, зрабілася нешта дзіўнае. Ён чуў нейкі грубы, дзікі голас, які не даваў спакою. Што не рабіў селянін, дзе не шукаў паратунку, — усё марна. Нехта з аднасяльчан падказаў з'ездзіць да Свіцязкай іконы. Як жа ўзбурыўся супраць гэтага голас! Ты памрэш, як толькі пераступіш мяжу сяла Свіцязь! — паграждаў. Чалавек быў гатовы памерці, так надакучалі чары. Паездка сапраўды была цяжкай, яшчэ горш стала, калі служылі малебен да Божай Маці. Чалавек дзіка пакрыкваў, з яго вуснаў кускамі вылятала пена, нейкая сіла кідала па баках. Здавалася — капцы яму тут. Ён ледзь жывы вярнуўся дахаты. Каля трэцяй ночы яму зрабілася лягчэй, чалавек заснуў, а раніцай прачнуўся здаровым. Страхоцці і галасы мінулі як сон...»*.

Хоць царкоўныя крыніцы ўсе аздараўленні прыпісваюць Іконе, палескі народ кажа па-свойму: «Еду за дапамогай да архімандрыта Арсеня».

* * *

У мужчынскім Петра-Паўлаўскім манастыры круглы год вітаюцца пасхальным прывітаннем: «Хрыстос Воскрэсе!».

— А вы памагчы нам прыехалі? — спытала мяне маладая маці ў хустачцы, не пакідаючы чысціць бульбу. У манастырскую кухню патрапіла я следам маленькай Ніны, дачушкі спадарыні Анны. Дзіцятка, пабачыўшы мяне ў паўзмрочным калідоры, кінулася бягом у памяшканне, дзе працавала яе маці. У кухні пахла смажанымі на алеі пампушкамі. У глыбі памяшкання віднела гурба парослай пасынкамі бульбы, адабранай для пасадкі. У вочы кінуліся яшчэ пяцілітровы слой з парэзаным у кубікі салам і чубатая міска з курынымі яйкамі.

— Наш архімандрыт паехаў у Іерусалім, — сказала спадарыня Анна.

Я распытала пра багаслужбы ў царкве і начлежныя паслугі ў сяле Свіцязь.

— Дык нікуды не трэба вам ісці, — параіла мне жанчына, — вы прасіце благаслаўленне ў нашага айца благачыннага, ён напэўна дапаможа...

Анна пайшла на гару наказаць пра мой візіт. Я ўжо хацела закасаць рукавы і дапамагаць чысціць бульбу, кроіць моркву і цыбулю. Ці памыць пасуду, якая пасля сняданку ляжала ў тазе. Аднак Анна спыніла мяне рашучым жэстам:

— Вам патрэбна на гэта благаслаўленне!

На гэта прыйшлося чакаць сорак хвілін. У тым часе я пакорна тапталася па прыцаркоўным пляцы і манастырскім полі. Пры муры даўжэзнай палоскай квітнелі чырвоныя цюльпаны. Трэцяй асобай, якую я пабачыла ў мужчынскім манастыры, таксама была жанчына. Сястра Феадосія, апранутая ў чэрнь, працавала з матыкай у прыманастырскім агародзе. Яна пасеяла ўжо моркаўку і пятрушку, пасадзіла кабачкі і буракі, гарох і салату, а зараз занялася пасадкай праўраслай цыбулі. За яе плячыма красаваліся роўныя градкі ў колеры марской зелені. Далікатныя рукі сястры Феадосіі былі запэцканыя зямлёй.

— Я люблю корпацца ў зямлі, — прызналася Феадосія. Паходзіць яна з Кіева. Ужо чацвёрты дзень шчыравала на градках, з надзеяй, што як і ў мінулым годзе, хопіць сваёй гародніны да наступнага лета. Яе воблік праменіў дабрынёй і ўнутраным бляскам.

* * *

Існаванне Свіцязскага манастыра прадбачыў жыхар сяла Амяльяне (укр. Омеляне). Ён з'явіўся да архімандрыта Арсеня якраз у дзень, калі рабочыя капалі равы пад фундаменты брацкага корпуса. Ён расказаў, як дваццаць гадоў таму прысніўся яму сон. На «Цюльпанавым полі» людзі капалі равы. У сне ён спытаў свайго бацюшку: «Што тут будзе?» — «Манастыр», — адказаў яму святар. Якраз тое поле, якое пяшчотна матычыла сястра Феадосія і насаджвала цыбуляй і часначком, называлася «Цюльпанавым полем». Раней зямля належала гаспадару, які вырошчваў тут цюльпаны на продаж. Да гэтага часу сціплы манастыр размяшчаўся ў прыватных дамах у сяле. Якраз там пачаліся першыя аздараўленні і цуды. У Свіцязі добра памятаюць вяселле, якое ледзь не закончылася пахаваннем нарачонай. Гэтая гісторыя каларытна апісаная ў манастырскім буклеце:

*Адзін хлапец сустракаўся нейкі час з дзяўчынай, але ў іх нешта не ладзілася. Хлапец рашыў закончыць знаёмства. Калі яны сустрэліся ў апошні раз, дзеўка злосна наморшчыла бровы і пагрозліва абвясціла: «Ты мяне яшчэ прыгадаеш!».*

*Пасля пэўнага часу хлапец сапраўды закахаўся і рашыў жаніцца. Днём іх звянчалі ў царкве. Вечарам, калі гулялі, спраўлялі вяселле, маладая раптам упала на зямлю, пасінела на твары і анямела. Пакліканая фельчарка бездапаможна развяла рукі і параіла рыхтавацца да найгоршага. Малады ўзяў тады паміраючую на рукі і панёс да хаты, у якой жыў архімандрыт Арсень з манахамі. «Бацюшка, ратуйце»! — крычаў ён у адчаі. Аднак ліха паказала рогі. Раптам усіх манахаў апанаваў жах, трэсліся ім рукі, усе малітвы выветрылі з галавы, згубіліся кнігі, яны не памяталі нават «Отчэ наш»...*

*Крыху пазней, калі манахі апанавалі жах і знайшліся кнігі ды пачаўся вадасвятны малебен да Божай Маці, у хаце падняўся шалёны вецер. Падалі рэчы, штось грукацела ў сцэны, а людзі трымцелі ад страху...*

*Калі сталі чытаць Евангелле, з твару маладой пачала знікаць сінізна. У яе зраўняўся дых і дзяўчына заснула. Яе акрапілі свянцонай вадой і паклалі спаць. Маладая доўга спала, а калі прачнулася, яна нічога не памятала...*

Паранармальныя здольнасці прыпрыпяцкіх жыхароў упершыню апісаў Герадот дзве з паловай тысячы гадоў таму. Грэчаскі гісторык назваў палешукоў чараўнікамі і празорцамі. На Палессі нічога не памянялася. Сучасныя жыхары прыпяцкіх сёлаў, якіх я сустракала ў далейшай дарозе, на лозунг «Свіцязь» з гонарам і страхам заяўлялі: «Там архімандрыт празорца!».

А зараз я ішла па благаслаўленне, каб заначаваць у цудадзейным манастыры...

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК



■ Сястра Феадосія



■ Свіцязская Петра-Паўлаўская царква

ISSN 0546-1960